# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970
Сакавік-
Красавік

Год XVIII
№ 2 (119)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XVIII | March—April 1970 | № 2 (119)

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII САКАВІК—КРАСАВІК 1970 № 2 (119)

# „ХРЫСТОС УВАСКРОС!“

Дзень, у якім людзі даведаліся, што сьмерці ўжо няма, назаўсёды будзе самым вялікасным у гісторыі чалавецтва. Вялікдзень людзі заўсёды будуць сьвяткаваць як найбольшае СЬВЯТА!

І жыды за найпершае сьвята ўважалі Пасху — пераход ад няволі ў Егіпце на свабоду ў Зямлі Абяцанай.

Аднак, калі Хрыстос Уваскрос — ад сьмерці да жыцьця — тое самае абяцаў усім, хто толькі захоча пайсьці за Ім, — дык тыя, што сапраўды пайшлі за Хрыстом, назвалі Пасхай гэты слаўны дзень Новага Запавету, а мы завём яго «Вялікаднем».

Перамога Хрыста над сьмерцяй пашырыла свабоду чалавека да бяскрайнасьці, бо вечнае жыцьцё канца ня мае. А жыцьцё — гэта свабода: дзе няма жыцьця, там свабода немагчыма. І толькі паэты могуць гаманіць аб свабодзе ветру, хмараў ці мора. Трава, краскі і дрэвы маюць свабоду агранічаную: яны жывуць, але й самі ня ведаюць, што жывуць. Аднак яны растуць, размнажаюцца і пнуцца ўгару, калі зямля ці вада пакорна паддаюцца матар'яльным сілам, інэрцыі, коцячыся ўніз. Далёка свабаднейшай ёсьці жывёла, якая сама ўжо ведае, што існуе. Птушка ня толькі ўмее палясцець, каб знайсьці сабе ежу. Больш таго, калі ноч становіцца занадта доўгай і яна ня можа гэтулькі часу вытрываць бяз ежы, то ўмее тады пераляцець у далёкія краі, дзе ноч карацейшая, хоць ніколі яшчэ там ня была. Гэта паказвае, што за яе падумаў Сам Бог-Стварыцель, бо тут птушка не праяўляе свабоды, а толькі спаўняе вымогі біялягічнага закону, званага інстынктам.

Толькі чалавек, які ад Бога атрымаў разумную душу, можа высвабадзіцца з пад прымусу законаў прыроды і запанаваць над імі. Толькі закон сьмерці панаваў над чалавекам пераможна. Аднак, пазнаўшы Бога, людзі на працягу доўгіх вякоў упорыста маліліся, дамагаліся і чакалі ад Бога ратунку. Толькі-ж Бог аказаўся бязьмерна лепшым, чым чалавек мог спадзявацца: Бог Айцец паслаў людзям Свайго Сына, каб Той запрапанаваў ім жыцьцё вечнае. Каб выпаўніць Божы плян, Сын Божы Сам стаўся Чалавекам і на вачах усяго чалавецтва перамог сьмерць, як першы з людзей.

Гэтым Ён паказаў, што чалавек мае магчымасьць асягнуць ня толькі поўнае панаваньне над законамі прыроды, але перакрочыць граніцы сьвету і атрымаць — з Хрыстом — жыцьцё вечнае. І гэта магчыма толькі ў згодзе, у дружбе і ў хаўрусе з Богам, Які стварыў і законы прыроды і законы для душы — Новы Хрыстовы Запавет.

І Бог стварыў сьвет, каб ашчасьлівіць чалавека, які павінен сам дабравольна ісьці ў Хрыстовы сьлед, спаўняючы Божую волю: павінен сьцерагчыся грахоў, якія родзяць няволю. Калі-ж людзі неразважліва ці дзеля прыемнасьці, выгоды, пыхі і самалюбства, не зважаючы на Бога або супраць Бога, у вялікіх грахох шукаюць шчасьця на зямлі, перамагаючы законы прыроды, дык якраз натыкаюцца на вялізныя шкоды і катастрофы, як войны і няволя. А і цяпер усё чалавецтва падпала ў найбольшую пагрозу загубы ад атамнай і бактэрыялягічнай зброі, ад голаду... А тымчасам навука магла-б прычыніцца да найбольшае выгоды і карысьці стурбаванага сьвету — аблягчыць працу і абясьпечыць ад голаду.

Усё, што адносіцца да кажнага чалавека, тымбольш тасуецца да кажнага народу і да ўсяго людзтва. З Божае волі народы маюць сваё жыцьцё больш трывалае чым жыцьцё адзінкі. Гісторыя паказвае, што народы — у лучнасьці і дружбе, у працы і навуцы, у патрыятызьме і любові — растуць і разьвіваюцца. А другія — у сварках і самалюбстве, у ляніўстве і нядбайнасьці, ці ў няшчасьці і няўдачах — занепадаюць і гінуць. А ўжо-ж уваскроснуць народу вельмі цяжка. Аднак, пакуль народ не страціў сваей мовы, нельга казаць, што ён памёр, хоцьбы аказаўся ў найцяжэйшай няволі і хоцьбы нягодныя суседзі сьпявалі па ім «адходную»!

(Заканчэньне на 2 бач.)

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

V

## ЛЯ ГРОБУ ГАСПОДНЯГА

*«Яко живоносец, яко рая красней-шій, воистину и чертога всякаго цар-скаго показася, Светлейшій Христе, гроб твой, источник нашего Воскре-сенія».*

З Трапара Іоанна Дамаскіна на сьце-нах Пячоры над Гробам Гасподнім.

І вось нарэшце паломнікі сьціроўваюцца да самага сьвятога месца на ўсёй зямлі. Аб гэтым сьведчаць нават мусулманы-гіды, якія бясконцаю чарадою ўводзяць усё новых і новых наведвальнікаў, як паломнікаў, гэтак і звычайных турыстаў. Гэта КУВУКЛІЯ, што значыць «Малая Царква» над самай пячорай Гробу Гасподняга. Яна разьмешчана пад самым высокім купалам абшырнага Храму Ўваскрошаньня. Калі пасьля апошняга пажару яна аднаўлялася ў 1810 г., будаўнікі пастараліся выкарыстаць увесь уцалелы ад агню матар'ял, як рабілі ўсе ранейшыя будаўнікі. Таму яна пабудаваная ў васноўным з каменьняў-сьведкаў Уваскрошаньня Хрыстовага. Пры гэтым ад сапраўднай пячоры Жываношнага Гробу захавалася само ложа Хрыстовае і частка сьценаў.

Паводле гістарычных дадзеных, першапачатная пячора, як і бальшыня жыдоўскіх пахавальных пячор пачатку нашай эры, была двухскладовая: малая пячора з ложам для покойніка і вялікая пячора для наведвальнікаў, каб памаліцца. Вось у вялікай пячоры якраз і адбылося зьяўленьне Анёла, які ад-



УВАХОД У ГРОБ ГАСПОДНІ

валіў камень, чаму яна і завецца Аўтаром Анёла. Ён быў зьнішчаны яшчэ за часаў Канстантына і адноўлены адно ў 1810 годзе.

Цяпер КУВУКЛІЯ (Малая Царква) ўяўляе сабою чатырохкантовую капліцу ў 8 мэтраў даўжынёю і каля 5 мэтраў і 30 сантымэтраў ушыркі. З заходняга боку яна заканчваецца пяцікутнікам. Уверсе над плоскім дахам узвышаецца цыбулепадобны купал.

Знадворку Капліца КУВУКЛІЯ прываблівае сваім прыгожым ружовым мармурам. Ейная балюстрада уздоўж усяго даху пад-

## «ХРЫСТОС УВАСКРОС!»

(Заканчэньне з 1 бач.)

Уваскросшы Хрыстотс вядзе чалавецтва да перамогі зямной і духовай і мы, беларусы, мусім гэтую пагрозьлівую сьмерць перамагчы, калі над намі вісіць «культурнае людаедзтва». Беларускі Народ яшчэ верыць у сваей масе ў Хрыста і павінен у Ім бачыць надзею поўнага адраджэньня і незалежнасьці. Дзень 25 САКАВІКА прыпамінае нам нашыя абавязкі ў адносінах да Бацькаўшчыны: маліцца за яе, працаваць для яе і любіць яе.

ХРЫСТОС УВАСКРОС!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

трымваецца шаснаццацю пілястрамі. Фасад капліцы ўпрыгожаны чатырмя вітымі калёнамі. Мноства ікон вісіць там пад колькімі ярусамі залатых і срэбраных лампадаў трох веравызнаньняў, праваслаўных у тым ліку. Перад уваходам — высокія падсьвечнікі з агромністымі сьвечамі. Над уваходам — мармуровая пліта з мазаічным абразом Уваскрошаньня.

Паломнікі ў ціхім задуменьні ўзыходзяць на нізкі ганак, па абодвы бакі якога — два авальныя вакны для раздачы сьв. агню багамольцам ў Вялікую Суботу.

У квадратовым Аўтары Анёла пасярэдзіне — высокая мармуровая ваза, у якой ляжыць



*ГРОБ ГАСПОДНІ*

частка камня, які некалі зачыняў уваход у пячору Гасподняга Гробу. Калі архірэй адпраўляе тут Боскую Літургію, тады ваза пакрываецца дошкаю і служыць як прастол, а ахвярнікам служыць сама Дамавіна Хрыстовая. Калі ж Боскую Літургію адпраўляе іерей, то ахвярнікам і прастолам служыць Гасподні Гроб, а сьвятар адбывае проскамідыю ўкленчыўшы. І тады сапраўды голас сьвятара, што даносіцца з Боскай Пячоры, нагадвае голас Анёла, абвесьціўшага сьвету пра перамогу Хрыстовую над апошнім ворагам — сьмерцяй.

Яшчэ ў чацьвёртым, пятым і шостым стагодзьдзях можна было бачыць перад уваходам у Пячору Гробу адвалены камень, завялікі, каб яго лёгка можна было зьнесьці, «бе бо велій зело». Адно пры цары Хакіме камень той быў разьбіты на часткі і раскрадзены. Толькі малая частка яго была захаваная да нашага часу і цяпер зьяўляецца няўміручым сымбалем перамогі Хрыстовай.

З столі зьвешваюцца дзесяткі грэцкіх, каталіцкіх, армянскіх і адна коптская лампада. З нявычэрпнай пакорай і ўціхаміраньнем старыя і маладыя, жанчыны і мужчыны рознага веку і ў рознай нацыянальнай і эўрапэйскай вопратцы, з адменнымі рысамі ў тварах, людзі розных расаў і колераў аднолькава ціхмяна сьхіляюцца ўкленчыўшы да Боскай вазы. Пасьля сагнуўшыся, ледзьве не паўзучы, хрысьцячыся і шэпчучы словы малітвы на розных мовах, яны праз нізкі праход праходзяць у Пячору Гробу. Праход той першапачатнага паходжаньня. Над дзьвярыма Пячоры два мармуровыя Анёлы трымаюць вянок, а вышэй над імі — мармуровы образ Сашэсьця Хрыста ў пекла. Бальшыня людзей ўваходзіць, як і выходзіць, укленчыўшы.

Магільня Хрыстовая — невялікая. Там ледзь здолеюць адначасна ўціснуцца 3-4 чалавекі. Палову пячоры займае справа ад уваходу высечанае ў скале ложа Хрыстовае, даўжынёю ў два мэтры і 80 сантымэтраў, вышынёю ў 60 сантымэтраў. Яно пакрытае мармуровай плітою, якая нястолькі упрыгожвае, як ратуе ложа ад руплівых паломнікаў, што стараюцца адламаць частку ложа як рэлiквію. Цяпер ідуць перамовы аб аднаўленьні пліты, якая ўжо часткава пацярпела ад часу і бязупынных пацалункаў мільёнаў паломнікаў праз стагодзьдзі. Аднак вымена паглядаў паміж рознымі веравызнаньнямі пакуль што не дала станоўчага адказу, адкуль прывезьці мармур — з Грэцыі ці з Італіі.

Сорак тры лампадкі, спушчаючыся з гары, асьвятляюць пячору. Вакол пячоры на сьценах словы трапара сьв. Іоанна Дамаскіна, што глыбока западаюць у сэрцы непарушнаю сілай пераконаньня.

Над самім ложам абраз Госпада, які паўстае з мёртвых. Божая Маці пільнуе спакой з сьцяны. Усё тут сьведчыць аб вялізарнейшай перамозе Хрыстовай. Ёй пасьвячаюцца ня менш трох штодзённых Божых Літургіяў: апоўначы — праваслаўная, папярэджаная грэцкай, ад трэцяй гадзіны ночы да шасьці раніцы — армянская служба, ад шостай раніцы да дзевятай гадзіны — каталіцкая, а

таксама грэцкая ютрань у Царстве Ўваскрошаньня, у г. зв. Кафолiконе. Каталiкi i iншыя веравызнаньнi таксама часта служаць у iншых каплiцах Храму Гасподняга.

Нядзелямi тут часта чуецца адначасна ўрачыстае сьпяваньне адразу на колькiх мовах; грэцкiя, армянскiя, коптскiя псальмы мяшаюцца з каталiцкiм арганам. Магутны хор розных песьняпсальмаў высока ў неба ўзносiць словы праслаўленьня Адзiнага для ўсiх хрысьцiянаў Збавiцеля. Асобна прыцягвае ўвагу сырыйскi хор, якi сьпявае па-арамейску — на мове Хрыста. Грэцкая мова для праваслаўнага вуха гучыць старажытняй прыгажосьцяй, дарма, што часам выдаецца чужынцу аднастайнай. Каля сьвятых месцаў ейная прыгажосьць неяк асаблiва глыбака западае ў сэрца i будзiць салодкiя водгукi рэлiгiйнага пачуцьця. I як добра тады ўсьведамляць добрадзейнасьць таго факту, што Гасподнi Гроб не належыць аднаму якому-небудзь вызнаньню цi царкве. Месца Пахаваньня i на трэцi дзень Уваскрослага Госпада, Сына Божага, ёсьць здабыткам усiх веруючых, незалежна ад якое-колечы рэлiгii. I сапраўды, у вачох кажнага хрысьцiянiна гэтая Пячора ёсьць неацэннай крынiцай Божай Раскошы: тут спачыў ад усiх сваiх цудоўных дзеяньняў, твораных дзеля нас грэшных, дзеля нашага выратаваньня, сам Госпадзь i, спачыўшы, уваскрос трыдзённа. Менавiта сюды перш--наперш кажны паломнiк прыносiць малiтоўныя парывы i тут у доўгiм укленчаньнi над ложам Госпада гарачымi сьлязамi абмываецца i ачышчаецца кажная грэшная чалавечая душа.

Сюды паломнiкi нясуць i ўскладаюць на Гроб Госпада для асьвячэньня крыжыкi, iконы, лампады, сьвечы i iншыя рэлiгiйныя рэчы. Гэта адзiнае ў сьвеце месца, дзе без сьвятара i адмысловай малiтвы, адным дакрананьнем рэчы набываюць духовай раскошы i як-бы апрамяняюцца ў праменяваньнi Божага цела i духу.

Сюды i прынёс Усевалад усе свае набытыя ў Сьвятым Горадзе рэлiгiйныя рэлiквii. Ускладаўшы iх на блiскучы мармур Гробу, ён доўга ўкленчыўшы адчуваў iлбом халодны камень Боскай плiты, адчуваючы, як праз гэтае дотыкненьне ў яго ўлiкавалася, нiбыта токам па правадох, таемная Божая Раскоша, напаўняла яго адчуваньнем нязвычнае сiлы абнаўленьня i вялiкага ачышчэньня ад штодзённае скрухi жыцьцёвай. Разам з тым ён цешыўся, што i ўскладзеныя крыжыкi i мэдальёны з абразамi сьвятых месцаў панясуць далёка з сабою тую ж ачышчальную сiлу i надораць ёю ягоных сяброў, родзiчаў i знаёмых, якiм яшчэ не пашчасьцiла, як яму, наведаць Сьвятыя Месцы. Ён употай радаваўся, што праз тыя маленькiя знакi ўдзячлiвай памяцi ён павязе ў шырокi сьвет i распаўсюдзiць далей цудоўную сiлу Хрыстовага Сьвятла i тым прычынiцца да ўзрастаньня людзкога дабрадзейства i агульнага дабра.

З гэтым радасным адчуваньнем ён на каленях, увесь час тварам да Божага Ложа, павольна i асьцярожна выбраўся з Сьвятое Пячоры. Жагнаючыся i на разьвiтаньне яшчэ колькi разоў цалуючы сьвятыя абразы ў Аўтары Анёла, Усевалад выйшаў з Кувуклii. Тут яго яшчэ чакаў агляд Грэцкай саборнай Царквы Ўваскрошаньня — г. зв. КАФОЛIКОНА, якую завуць «маткаю ўсiх цэркваў». Апошняя адлучана ад галоўнае Ратонды Храма Ўваскрошаньня дзьвумя лёгкiмi перагародкамi i аркаю, г. зв. «Царскаю Брамаю», справа каля Аўтара — трон патрыярха, па левую — трон для Архiрэя, якi ў адсутнасьць Патрыярха ўзначальвае Божую Службу. У Кафолiконе ўсюды вiдаць iконы, некалi падараваныя нашымi суродзiчамi з Колiшняе Расейскае Iмпэрыi. Багата Плашчанiцаў, вышытых на нашай Бацькаўшчыне, часам з беларускiм гэамэтрычным арнамэнтам. Па сярэдзiне мармуровай падлогi — мармуровая урна з вытачаным яблыкам уверсе. Гэтае месца завуць асноўным цэнтрам зямлi, як бы ў пацьверджаньне царкоўнай песьнi: «Спасенiе соделал еси п о с р е д е земли, Хрысте Боже». Тут некалi стаялi жанкi-мiраносiцы, калi Госпада Iсуса клалi ў Гроб. Над памостам у чатыры ступенi ўзвышаецца Аўтар. Iканастас мармуровы з iконаў цалкам падараваных нашымi суродзiчамi. Над сярэдняю аркаю вылучаецца амбона, зь якое чытаецца Евангельле. У аўтары за iканастасам у шафах захоўваецца i вялiкi крыж, якi ўлучае часткi сапраўднага Жыватворчага Дрэва. У дзень Узьнясеньня ён выносiцца на паклон богамольцам. Iншая частка Хрыстовага Крыжа, як ужо гаварылася, захоўваецца разам з вартаснейшымi мошчамi у Прыёмнай Рызьнiчага Сьв. Гробу.

Калi Ўсевалад Цiхановiч апынуўся зноў на майдане перад Храмам Жываноснага Гробу Госпада, яму прыгадалiся словы Хрыста, калi той уваходзiў у Ерусалiм перад сваiмi пакутамi: «Калi яны замоўкнуць, дык каменьнi загалосяць». (Лука, 19, 40). I Цiхановiч пакiдаў той Храм з непераадольным адчуваньнем, што тут сапраўды кажны камень гаворыць нашаму сэрцу пра ягоную гiсторыю, кажная пясчынка нясе ў сабе доказ Хрыстовае Праўды, а кажнае беспасярэднае сутыкненьне з iмi пакiдае такi непазбыўны сьлед у душы чалавека, што тых уражаньняў выстарчыць на ўсё жыцьцё.

*а. Аляксандар Надсон*

# Малітаўнік Мамоніча 1601 г.

*(Заканчэньне)*

*Малітвы пры сьв. Літургіі* сталіся складовай часткай малітаўнікаў для сьвецкіх людзей, якія выдаваліся ў Вільні на працягу ўсяго XVII стагодзьдзя. Яны былі перадрукаваны бяз зьмен у другім выданьні *Штодзённых малітваў* Мамоніча ў 1609 г., а таксама ў г. зв. *Днеўніку* выданым ў 1652 г. Віленскім праваслаўным брацтвам. У *Полууставе,* выданым гэтым самым брацтвам ў 1695 г., да тэксту малітваў былі дадаыы цікавыя паясьненьні ў беларускай мове.

У разьдзеле *Молитвы на всю седмицу, творение святого отца Кирилла,* памешчана 21 малітва сьв. Кірыла Тураўскага — па тры малітвы на кожны дзень тыдня. Такім чынам малітвы вялікага беларускага сьвятога былі ўпяршыню надрукаваныя на Беларусі — вымоўны доказ ягонай папулярнасьці сярод беларусаў.

Кніжка канчаецца разьдзеламі *Святце* і *Пасхалія.* Першы з іх — гэта каляндар нярухомых царкоўных сьвятаў на кожны дзень года. Беларускіх святых няма, з раньніх агульна-усходнеславянскіх ёсьць толькі сьв. Барыс і Глеб (24 ліпеня), але з прычыны недахопу месца надрукавана толькі імя Барыса. Ёсьць таксама сьвята Пакроў (1 кастрычніка). На пачатку кожнага месяца знаходзяцца кароткія звесткі агульнага характару, напр.:

«Месяц септемврій, имат дній 30, а в дни часов 12, и в нощи 12. Септемвр, седмый именуется от начала року, сиреч от марта, яко в сем паки есенное равноноще составляется».

«Месяц януарій, имат дній 31, яко з нем римляне рок зачинают, егоже мы студень нарицаем. Паки возврат солнцу, яко день прибывати начинает, нощь бо имат часов 14, а день имат часов 10».

Цікавыя беларускія назовы месяцаў: септемвр, паздерник, листопад, груденъ, студень, лютый, март, кветень, травень, червец, липец, серпень.[10]

Разьдзел *О пасхалии, и пасце* пачынаецца такім уступам:

«Пасхалія ест зложона не для тых свят, которыи суть в святцех, але для тых, которіи не мають отделеного дня в святцех, но только на каждый рок рушаются ведлуг бегу полноты марта небесного, яко Пасха, Вознесеніе Христово, Исшествіе Святого Духа, и ведлуг того менится мясопуст, и Петров пост и зачинаніе Тріоди; а прото кгды хочеш ведати о праздницех ненаписаных в святцех, которого месяца и дня и которое вруцелето, и о мясопустех и постех, смотри пасхаліи».

Пасхалія абыймае гады 1602—1629. Сярод рухомых дат на кожны год тут памешчаны «Пасха жидом», «пасха христіяном», а ўжо ў самым канцы гаворыцца што «В том року..., пасха новаго календара пред нами за тыждень», або «за пять недель», або «ровно с нами».

Книжка канчаецца наступным пасьляслоўем:

«Выдрукована же бысть сія книжка молитвы в столечном граде Великого Княжства Литовского у Вильни, при державе Господара нашего Милостивого Жыгимонта третьего, Божою милостю Короля Польского, Великого Князя Литовского, Руского, Пруского, Жомоитского, Мазовецкого, Ифлянтского, и Дедичного Короля Шведского, Кготского, Вандалского, и прочая, в дому Тыпографов его Королевской Милости Мамоничов, в лето от воплощенія Господа Бога и Спаса нашего Ісуса Христа 1601. Богу же славивому в Троіци, давшему начати и сподоблышему совершити честь и держава во вся веки бесконечныя. Аминь».

На апошняй старонцы знайходзіцца каралеўскі прывілей, які кідае цікавае сьвятло на гандлёвы бок прадпрыемства Мамонічаў:

«За привильем Его Королевское Милости, которим то ест варовано, абы каждый якогож кольвек стану человек не важился тых книг в панствах Его Королевское Милости друковать, або где индей друкованых до панства Его Королевское Милости, будь явне або потаемне, привозить и продавать под виною в привилею менованою до скарбу Его Королевское Милости, и под утраченьем всих книг».

Такім чынам прывілей гвара нтаваў Мамонічам манаполь на друкаваньне царкоўных кніг і бараніў іх ад замежнай канкурэнцыі. З другога боку самі Мамонічы мелі заўсёды вока на замежныя рынкі і нават выдавалі спэцыяльна кнігі з разьлікам на продаж іх у чужых краінах, асабліва ў Маскоўшчыне.

---

[10] Вось для параўнаньня назовы месяцаў ў *Малой падарожнай кніжцы* Скарыны, выданай у Вільні прыбл. ў 1525 г. (гл. Владимиров, ор. сіт. стар. 197-98): вресень, листопад, грудень, прасинець, стычень, люты, марець, кветень, маі, чирвець, липець, серпень.

У *Храналёгіі* Андрэя Рымшы, выданай у Астрозе ў 1581 г., назовы месяцаў мала чым розьняцца ад Скарынавых: вресень, паздерник, грудень, просинец, стычень, лютый, марец, кветень, май, чырвец, липец, серпень (гл. А. Коршунаў (склад.), *Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры,* Мінск 1959, стар. 327-28).

*Полуустав,* выданы Віленскім праваслаўным брацтвам ў 1695 г., мае наступныя назовы: септемврій, паздерник, листопад, грудень, серинь, лютый, березозоль, кветень, травень, червец, липец, серпень.

Беларускія тэксты і прывілей у *Штодзённых малітвах* ясна сьведчаць, што гэтая кніга была прызначаная не на экспарт, але для мясцовага беларускага насельніцтва.

Лявон Мамоніч прысьвяціў сваю кніжку нейкаму высокаму царкоўнаму дастойніку, якога ён называе архіепіскапам і сваім пастырам. Прозьвішча гэтага дастойніка — якое напэўна было на загінуўшай першай староньцы прысьвячэньня — не дайшло да нас, і таму сёньня можам рабіць толькі больш або меньш праўдападобныя здагадкі адносна таго, кім ён быў. У тым часе на Беларусі не было праваслаўнай іерархіі, бо ўсе беларускія епіскапы прыступілі да Вуніі на Берасьцейскім Саборы 1596 г. Сярод іх тытул архіепіскапа мелі мітрапаліт Кіеўскі і ўладыка Полацкі. У сакавіку 1601 г. Полацкі пасад заняў Ґедэон Бральніцкі пасьля сьмерці ў 1600 г. свайго папярэдніка, Германа-Рыгора Загорскага. Ужо з гэтай прычыны вельмі няпраўдападобна, каб Мамонічы мелі нешта супольнае з гэтым іерархам, які дарэчы нічым асаблівым не адзначаўся. З другога боку мітрапалітам ад 1600 г. быў Іпаці Пацей. Хоць мітрапаліт і называўся Кіеўскім, але ён меў сваю афіцыяльную рэзыдэнцыю ў Наваградку і Вільня была ў ягонай непасрэднай юрысдыкцыі. Такім чынам Лявон Мамоніч мог з поўным правам назваць яго сваім пастырам. Апрача гэтага Мамонічаў зьвязвалі з Іпаціем Пацеем даўнія сувязі. Справа ў тым, што Мамонічы, якія спачатку друкавалі кнігі для патрэб Праваслаўнай Царквы, пачалі схіляцца да Вуніі яшчэ перад Берасьцейскім Саборам. У 1595 г. яны выдалі кнігу *Унія, албо выклад преднейших артикулов к узъедноченю греков с костелом рымским належащих,* аўтарам якой звычайна лічыцца Іпаці Пацей. Пра-уніяцкія сімпатыі Мамонічаў напэўна насьцярожылі праваслаўных, і гэтым можна тлумачыць ажыўленьне выдавецкай дзейнасьці Віленскага праваслаўнага брацтва пачынаючы ад 1596 г. З усяго вышэй сказанага выглядае, што малітаўнік Мамоніча быў праўдападобна уніяцкім выданьнем і што складальнік прысьвяціў яго Іпацію Пацею.[11] Гэтага аднак ня відаць з самога тэксту, у якім няма нічога такога, што б магло выклікаць у тым часе засьцярогі з боку праваслаўных.

Як адна з першых спробаў даць сьвецкім людзям малітаўнік, які б задавальняў іхнія штодзённыя рэлігійныя патрэбы і які б не быў звычайнай адаптацыяй манастырскіх традыцыяў, *Штодзённыя малітвы* Мамоніча унесьлі нешта новае ў рэлігійную літаратуру і былі важным крокам наперад у разьвіцьці малітаўнікаў для сьвецкіх на Беларусі ў XVII стагоддзі. У гэтым іх цікавасьць.

---

11 Расейская дасьледчыца кнігадрукаваньня Зярнова піша ў гэтай справе: «По языку этого посвящения, по отсутсвию великорусских святых в свят-

*Юрка Віцьбіч*

# Занядбаны замак з абкарнаным назовам

*«Край легенд,*
*крыжоў, магіл-курганаў, —*
*край тугі —*
*бальзам жывых крыніц»*
Паўлюк Трус

На Аршаншчыне, па бакох рэчкі Дзярноўкі разьлеглася маленькае, але старадаўняе мястэчка Смаляны. Упяршыню яно згадваецца ў канцы 15 стагодзьдзя, як вотчына князёў Бельскіх, пасьля ім валодаў слаўны гэтман Канстанцін Астроскі, потым той самы князь Андрэй Курбскі, што ўцёк ад гневу цара Івана Лютага з Маскоўшчыны да Літвы. Нішто тут цяпер ня прыгадвае аб іх, але затое спакінула свой манумэнтальны сьлед каралева Бона — жонка Жыгімонта Старога, матка апошняга зь Ягелёнаў Жыгімонта-Аўгуста й Ганны, жонкі Сьцяпана Баторага.

Прыгожая й уладалюбная італійка Бона Сфорца і дачка гэрцага Мілянскага Іоана Галеацо прывезла з сабой у 1518 годзе ў Польшчу апошнія навіны тагочаснае эўрапейскае культуры й цывілізацыі, пачынаючы ад рэнэсансу й да гародніны ўлучна. Менавіта яна ўпяршыню пазнаёміла Рэч Паспалітую зь пятрушкай, салатай, парэям, савойскай капустай і шпарагам, якія палякі дагэтуль называюць улашчызнай, гэта значыцца італійскімі. Толькі Бона была ня звычайнай жанчынай-гаспадыняй, але й каралевай зь вельмі моцным, зусім ня жаноцкім характарам. Ейная аграрная рэформа, вядомая пад назовам — Валочныя ўставы каралевы Боны — на думку акадэміка Ўладзімера Пічэты, выказаную ім у кніжцы «Беларусь і Літва ў 15—16 стагодзьдзі» — «зьяўлялася аграрнай рэвалюцёяй і Жыгімонту-Аўгусту давялося пазьней толькі завяршыць матчыну практыку».

Разам з Бонай Сфорчы прыехалі зь Італіі архітэктары, якія распачалі будаўніцтва замкаў. На Беларусі захаваўся шэраг гматаў, зь якімі зьвязанае ейнае ймя. Акрамая Смалянаў яны ёсьць у Пінску, Рагачове, Крычаве, Серніках і г. д. Таму міжволі згадваюцца прысьвечаныя Беларусі прачулыя радкі паэты Аляксея Зарыцкага зь ягонага твору, які ён не адважыўся надрукаваць у жудасных 30-х гадох:

«І колькі Вітавых магіл
І замкаў каралевы Боны».

На ўскраіне сучасных Смалянаў, на невялікім узгорку, які абмываецца з аднаго боку Дзярноўкай, а з другога ейнай штучнай адтокай, уздымаецца прывабная, 14-мэтравая ўвышкі вежа й рэштка магутнага муру колішняга замку. Вежа пабудаваная ў выразным рэнэсансавым стылю з цэглы й камяню, пласты якіх чаргуюцца паміж сабой, нагадываючы кладку Старога замку ў Горадні. У ёй можна заўважыць нішы, сьляды унутранае вінтавое лесьвіцы, аркавы пераход, а звонку — высокамастацкі скульптуры картуш, якога сымболіка не расшыфраваная дагэтуль, але ён сьветчыць аб тым, што будаўнікі ўдзялілі досыць увагі дэкаратыўнаму аздабленьню замка. Над картушам, у вакне верхняга ярусу вежы захавалася драўляная перакладзіна, на якой, відаць, вісеў набатны звон. Фартыфікацыйная пабудова тутэйшага замку ладне ў чым падобная да замкаў у Міры й Нясьвіжы. І на самым версе вежы ля сваё бусьлянкі атаўбаваўся бусел — адзіны рамантычны вартаўнік усіх занядбаных гістарычных крушняў.

У сучаснай савецкай літаратуры замак у Смалянах згубіў сваё колішняе ймя. Нават паважны навуковец, доктар архітэктуры У. Чантурыя

цах несомненно видно, что издание „Молитов" униатское, кроме того, невозможно себе представить, чтобы печатник, издавая молитвенную книгу для православных, объявил себя редактором» (А. С. Зернова, «Типография Мамоничей в Вильне», *Книга*, № I, Масква 1959, стар. 212). Беларускі аўтар М. Прашковіч паўтарае ўсьлед за Зярновай: «Ужо ў кнізе „Малітвы паўсядзённыя", якая выйшла ў 1601 г., няма пераліку велікарускіх святых, г. зн., што кніга была прызначана для уніятаў» (М. І. Прашковіч, «Культурна-асветніцкая роля друкарні Мамонічаў», *450 год беларускага кнігадрукавання*, Мінск 1968, стар. 167). Аднак аргумэнты гэтых аўтараў зусім не пераконваюць. У адрозьненьне ад Маскоўскай дзяржавы, дзе народная мова не мела месца ў рэлігійным ужытку, на Беларусі ў XVI—XVII стаг. праваслаўныя свабодна карысталіся беларускай мовай у сваіх выданьнях, і то ня толькі ў прадмовах і прысьвячаньнях — што было звычайнай справай — але і ў саміх тэкстах кніг. Адносна «велікарускіх» (г. зн. маскоўскіх) сьвятых, дык іхні культ меў тады толькі мясцовае распаўсюджаньне ў граніцах Маскоўскай дзяржавы. Было б дзіўна знайсьці іхнія імёны ў праваслаўных рэлігійных выданьнях на Беларусі, якая была ў тым часе ў палітычных і царкоўных адносінах незалежнай ад Масквы. Толькі Мамонічы з гандлёвых меркаваньняў устаўлялі імёны маскоўскіх сьвятых у кнігах прызначаных на продаж у Маскве. У іншых беларускіх праваслаўных выданьнях таго часу, прызначаных для мясцовага насельніцтва, гэтых імён не спатыкаецца. У справе апошняга аргументу Зярновай, дык хопіць толькі зазначыць, што той самы Лявон Мамоніч надрукаваў сваё прозьвішча пад прысвячаньнем у праваслаўным выданьні *Псалтыра* ў 1593 г. Такім чынам вельмі магчыма, што малітаўнік Мамоніча быў уніяцкім выданьнем, але не з прычын паданых Зярновай і Прашковічам.



*На фото «Замак каралевы Боны». Смаляны.*
*Бачым тут, што замак ня ў стане сам на сябе наглядзецца, ужываючы за люстэрка рэчку Дзярноўку.*

(Фотаздымак са збору Юркі Віцьбіча).

свайму адпаведнаму артыкулу ў «Літаратура і мастацтва» ад 5 пазалеташняга сьнежня даў абкарнаны загаловак «Замак у Смалянах». Між тым дарэвалюцыйным гісторыкам і краязнаўцам, як Сапуноў, Бэз-Карніловіч, Бацюшкаў, Кіркор, Кукальнік, Аніевіч ды іншым ён вядомы вылучна пад назовам замку каралевы Боны. У 9 томе «Росии» Сямёнава аб Смалянах чытаем: «Пазьней тут некаторы час жыла каралева Бона, замак якой разбурылі расейсцы за часы Паўночнае вайны». Сам народ мянуе яго толькі замкам каралевы Боны, стварыўшы вакол яго па сваім звычаю шмат цікавых паданьняў. А ўрэшце-рэштаў чаму не пазбавіліся свайго ймя шматлікія дамы падпальніка нашых гарадоў імпэраттара Пётры Першага, узятыя цяпер на Беларусі пад дзяржаўную ахову, як і дом у Шчэціне, на Старым Мейсцы, дзе нарадзілася царыца Кацярына Другая, што потым спрычынілася да дзяржаўнае пагібелі Рэчы Паспалітае?

Падарваньне расейцамі 3 жнівеня 1708 году гэтага выдатнага архітэктурнага й гістарычнага помніку ня мае грунтоўнага апраўданьня. Перад тым яны паланілі тут шведзкі аддзел на чале з генэралам Каніфэрам, а ўжо пасьля гэтага зьнішчылі замак, каб, магчыма, ня спакідаць вайсковае ўмацаваньне на зямлі, якая тады да Расеі й не належыла. Замак потым не аднавілі, ягоная цудам ацалелая вежа зь цягам часу пачала разбурацца і ў 1897 годзе частка яе завалілася. Абшарнік Цітоў, якому належылі крушні, адрамантаваў вежу, тое-ж у 1903 годзе зрабіў і абшарнік Хамянтоўскі. Аднак у 30-х гадох Смалянскі сельсавет вырашыў разваліць вежу, каб зь ейнае цэглы пабудаваць у мястэчку лазьню, але на абарону яе сьпярша сталі настаўнікі й студэнты тутэйшага сельска-гаспадарчага тэхнікуму, а ў 1939 годзе Віцебская навуковая экспэдыцыя для ўліку помнікаў гісторыі і мастацтва.

Акрамя замку каралевы Боны заслугоўвае ў Смалянах дзяржаўнае аховы Спаская царква. Яна складаецца з двух частках — верхняе, драўлянае, адноўленае ў канцы 18 стагодзьдзя і ніжняе, каменнае, бадай пазбаўленае дзённага сьвятла, або — крыпты, зь якіх кажная зьяўляецца асобнай царквой са сваім прастолам, прычым ніжняя значна старэйшая за верхнюю аб чым перадусім сьветчыць самы характар ейнае кладкі. Верхняя царква мае дзьве званіцы бяз вокнаў, прызначэньне якіх такім чынам чыста дэкаратыўнае, што надае будынку ўнікаль-

## З царкоўнага жыцьця

Сёлета, як і раней бывала, прайшоў памысна ТЫДЗЕНЬ АДЗІНСТВА ад 18 да 25 студзеня: кажны дзень хрысьціяне розных веравызнаньняў адпраўлялі набажэнствы ў сваіх сьвятынях або лучыліся ў азначаных храмах-цэрквах-касьцёлах на супольныя малітвы з заклікам «Да Злучэньня!» дый слухалі спэцыяльныя казаньні сваіх і чужых прапаведнікаў. Лёзунгам гэтых набажэнстваў быў заклік: «Мы — сябры ў працы для Бога!» А гэтая праца — такая: імкнуцца да адзіства веры — гэтага дамагаецца Сам Бог. Будзем працаваць у духу любові, праўды і пашаны адны да другіх.

Аб хрысьціянскай любові будзе сьведчыць наша супольная малітва, узаемная помач у патрэбах і няшчасьцях, асабліва хворым і церпячым.

Для бліжэйшага збліжэньня ў Брытаніі галава англіканскае Царквы д-р Рамсэй прыняў візыту кардынала Марті, арцыбіскупа Парыжа. Іх спатканьне адбылося сьпярша ў англіканскай катэдры, а пасьля ў каталіцкім касьцеле францускай парахвіі ў Лёндане. Там і тут абодвы прамаўлялі да значнай грамады каталікоў і англіканцаў. Прытым адбываліся супольныя малітвы аб злучэньні Цэркваў. І яшчэ прыбыў у Англію кардынал Віллебрандс, Старшыня Сакратарыяту Адзінства Хрысьціянаў: ён наведаў некалькі важных цэнтраў рэлігійных, якія працуюць у гэтай самай справе.

З прамоваў кард. Віллебрандса бачылася, што, хоць існуе нямала цяжнасьцяў і перашкодаў, аднак не бракуе добрае волі і — пры Божай ласцы — відаць вялікі поступ у супольнай супрацы каталікоў і англіканцаў. Якіх 50 гадоў таму назад нельга было нават марыць аб нечымсьці падобным! У гэтым адчуваецца ўплыў Сьвятога Духа. Праўда, цяпер ужо крыху астывае першы запал і энтузыязм, але затое азначаецца больш практычнай працы. Хоць у студыях і дыялёгах выяўляецца больш перашкодаў, але грунтуецца прагананьне ў большай Божай помачы, якая ўжо даканала шмат такіх вялікіх пераменаў! Цяперашні экумэнізм вельмі збліжыў нас, хрысьціянаў і навучыў неабходнай талеранцыі, хрысьціянскай любові і ўзаемнай пашаны.

Папа Павал VI казаў у прамове: «Ня досыць называцца хрысьціянінам, але трэба па хрысьціянску жыць. Чым больш зьбліжымся з Хрыстом, тым больш зьбліжымся да адзінства веры». А да іншаверцаў таварыў, што найперш павінны дайсьці да адзінства ў сваей веры, а тады й каталікам будзе лягчэй з імі злучыцца. Людзі патрапяць разыйсьціся самі ў веры, але бяз помачы Божае злучыцца немагчыма, дык у такой цяжкой справе трэба вытрывалай, пакорнай і гарачай малітвы.

⁂

Маскоўскі Патрыярх Аляксей загадаў свайму духавенству не адмаўляць сьвятых Тайнаў (Сакрамантаў) каталікам, якія будуць да іх зьвяртацца. Праўда, гэты дозвал ёсьць толькі палавічным, бо нічога ня сказана, што і праваслаўныя могуць спавядацца і прычашчацца ў каталіцкай Царкве. Аднак усё-ж зроблены яшчэ адзін вялікі крок наперад: прызнана важнасьць Тайнаў у абодвых Цэрквах, што ўжо зьбліжае да адзінства веры. І з бегам часу самі вернікі прымусяць уладу дайсьці да паразумленьня. Значыць, даўнейшая Унія, якая была ўведзена толькі часткова і ў якую мяшаліся шкодныя палітычныя дзейнікі, станецца зусім справай толькі Божай, паканаўшы перашкоды нацы-

---

-нае значаньне. Хоць экспэдыцыя 1939 году ўзяла Спаскую царкву пад дзяржаўную ахову, але магчыма яна ня існуе цяпер, бо нідзе ў друку аб ёй ня згадваецца. Між тым старадаўніну крыпты падкрэсьлівае таксама адно з народных паданьняў, паводля якога каралева Бона, нібы езьдзіла да яе із замку на тройцы коняй па падзямельнаму ходу. Прыпушчэньне мэтазгоднасьці такога падарожжа на адлегласьці чвэрткі кілямэтра больш чым наіўнае, хоць яно й падобнае да цудоўных мітаў сонечнае Эляды, але застаецца затое бяспрэчным фактам, што па часе іхняга паходжаньня народ лучыць разам крыпту й замак.

Калі глядзіш на велічную вежу рэнэсансавага замку ў Смалянах, дык пачынае здавацца што атульвае яго ня дачка Друці маленькая Дзярноўка, а італійскі Тыбр або По і адразу згадваецца іншае паданьне. Народ у ім сьцьвярджае, нібы часам уночы ў вокнах замкавае вежы, якія сёньня падобныя да вочных дзіркаў шкілету, запальваецца сьвятло, чуецца музыка і паказваецца жанчына ў белым адзеньні. Па сваім прывабным твары, як і па колеры свае ядвабнае сукні яна нагадвае толькі тую самую Бону, што гэтак яскрава адбілася на вядомым абразу Яна Матэйкі «Званы Жыгімонта», пры ўспаміне аб якіх наш знанны паэта нашанівец Язэп Фарботка ў сваёй добрай балядзе «Звон» з болем зазначыў:

«А наш народ праліў крыві свае нямала,<br>Наш край скалёсілі гарматы не адны.<br>Гісторыя ўсю нам славу захавала,<br>Хоць ня гудуць аб ёй магутныя званы».

янальныя шавіністычныя і ўсялякія баламуцтвы з боку людзей няверуючых, якія перашкаджаюць злучэньню Цэркваў.

✳

СЫНОД ПРАВАСЛАЎНЫХ ЦЭРКВАЎ: Партыярх Атэнагарас І-ы абвясьціў, што гэты Сынод ці Сабор адбудзецца ў 1972-м годзе ў Александрыі. На ім будзе абмеркавана справа агульнага каляндара, час Пасхі-Вялікадня і справа злучэньня з іншымі Цэрквамі.

УСПАМІН СУСРЭЧЫ: З нагоды 7-мі-годкаў сустрэчы Паўла VI-га ў 1963 годзе ў Ерусаліме з Патрыярхам Атэнагарам 1-ым — гэты выслаў да Папы тэлеграму, у якой кажа: «У малітве перажываем вялікі і сьвяты момант аднаўленьня сутрэчы Захаду з Усходам у любові паводле жаданьня Госпада Нашага Ісуса Хрыста. З пакорай разважаем тайну гэтага здарэньня ў цэлай Тайне Божае Эканоміі адносна Царквы: бачым нашую адказнасьць за яе адзінства».

✳

## АБ ЖАНІМСТВЕ СЬВЯТАРОЎ

Гэтая справа набрала вялікага розгаласу на ўсім сьвеце, асабліва ў Галяндыі, дзе сьвятары і сьвецкія дэлегаты на краёвай і Душпастырскай Радзе высказаліся вялікай большасьцю галасоў за скасаваньнем абавязковага цэлібату для духавенства.

Як ведама, у каталіцкай Царкве лацінскага абраду духавенства нежанатае. Пайшло гэта з таго, што Сам Хрыстос, заклікаючы апосталаў, загадаў, каб пакінулі ўсё і пайшлі за Ім. «Тады Пётр, адказваючы, сказаў Яму: — Вось мы пакінулі ўсё і пайшлі за Табою. Што-ж нам будзе? — Ісус-жа сказаў ім: — ... Кожны, хто пакінуў дом, ці братоў, ці сёстраў, ці бацьку і матку, ці жонку і дзяцей, ці землі дзеля імяньні Майго, атрымае ў сто разоў больш і ўнасьледуе жыцьцё вечнае» (Матв. 19, 27-29).

І Каталіцкая Царква, хоць спачатку пазваляла браць у духавенства мужчын жанатых, пасьля стала агранічваць такі прыём — аж урэшце зусім забараніла жанатым уваход у духоўны стан і ўжо каля тысячы гадоў пануе ў лацінскім абрадзе поўны цэлібат — бязжэнства.

Праўда, такая ўстрымлівасьць патрабуе значнай ахвярнасьці і такое самотнае жыцьцё можна назваць пакутай да сьмерці. Дзеля таго ня можна уваходзіць у духоўны стан, ня маючы Божага пакліканьня. Хто-ж увайшоў, павінен ужываць належных спосабаў і духовых сродкаў — малітвы, асьцярожнасьці ў адносінах між людзьмі, навукі і працы, такжа ўстрымлівасьці і пакоры, каб быць непадатлівым на спакусы і слугою Божым і людзкім.

Царква — дзеля найбольшае Божае хвалы і збаўленьня людзкіх душаў — патрабуе духавенства не абцяжанага сем'ямі, незалежнага ад дому, вольнага ў грамадзтве, — а гэта якраз дае сьвятару цэлібат. Дый цяпер грамадзтва, хоць дамагаецца сьвятароў сьвятых, дзейных, энэргічных і паступовых, але эканамічна не дбае аб іхняе абасьпячэньне: ён мусіць неяк сам выкручвацца ці зарабляць, каб утрымаць і сябе і надта часта мусіць абыходзіцца без прыслужнікаў і дбаць аб утрыманьні ў парадку сваей сьвятыні... Дык дзе-ж яму справіцца з такімі духова-матар'яльнымі патрэбамі парахвіі, калі будзе мець «на карку» і жонку і дзяцей, якіх трэ будзе вывучыць і паставіць на ногі?!

Значыць, у неадпаведным часе націскае Галяндыя на Паўла VI, каб пазволіў сьвятароў мець жанатых. Пачакайце, міленькія, з гэтым паважным пытаньнем яшчэ пару дзесяткаў гадоў! Справа вашая не прагарыць, калі Царква чакала на гэта дзьве тысячы гадоў...

А наконт адыходзячых ад сьвятарства, дык слушна кардынал Гінэн назваў іх «дэзэртырамі», бо пасыпаліся яны якраз у надта для Каталіцкае Царквы цяжкім часе, калі трэба змагацца і дбаць пра тое, каб абараніць сьвет ад голаду і вайны, якая можа загубіць усё чалавецтва.

✳

Апошнім часам яще адно пытаньне закранула публічную апінію. Але Ватыканская газэта «Оссэрваторэ Романо» піша, што Царква ніколі ня будзе высьвячаць жанчын на сьвятароў! Аўтар артыкулу кажа, што зусім ня мае ніякага ўпярэджаньня да жанчын; але даказвае, што Хрыстос, закладаючы Царкву, арганізаваў яе на час заўсёдны — да канца сьвету. І даў Хрыстос Царкве структуру выразна акрэсьленую, у якой толькі мужчыны маюць права на сьвятарства: значыць, ніякая ўлада ня мае права ўводзіць радыкальныя зьмены ў Божае будаваньне. Ясна бачым, што Хрыстос да апостальства не заклікаў ні аднае жанчыны і апосталы не зьмянілі гэтага пляну, ставячы біскупаў і прэзьбітэраў.

Праўда, кажуць рэфарматары, што ў тыя часы парадак сусьветнага жыцьця выключаў жанчын з публічнае дзейнасьці, а цяпер насталі новыя парадкі на сьвеце і...

Адказваем, што Царква пайшла на вялікія ўступкі і шмат у чым дапускае жанчын да ўдзелу ў набажэнстве, у парадках працы ў сьвятынях. Жанчыны могуць нават у некаторых касьцельных функцыях заступаць сьвятароў. Калі так, то і дзякуй Боку! Чаго яшчэ болей трэба?

✳

ЮГАСЛАВІЯ: З нагоды Міжнароднага Дня Супакою прэзыдэнт Язэп Броз-Тіто выслаў у Ватыкан тэлеграму, у якой выяўляе шчырае пры-

знаньне і падзяку за нястомную працу для справы сусьветнага супакою і жадае Паўлу VI-му далейшага посьпеху.

*

ЛЕТУВА: Мінулага году 40 сьвятароў выслалі пісьмо да Старшыні Савету Міністраў СССР у справе прасьледу рэлігіі ў Летуве. Яны жаляцца, што, хоць Ленін і савецкая конституцыя гарантавалі свабоду рэлігіі, але ў практыцы Каталіцкая Царква ў Летуве засуджана на сьмерць! У пісьме пададзены факты прасьледу: Перад 1940 годам было ў Летуве 12 біскупаў і 1500 сьвятароў, а ў духоўных сэмінарыях 400 студэнтаў-клерыкаў. А цяпер дапушчана толькі двух біскупаў і 30 студэнтаў: калі-ж які з іх выступіць або лямрэ, дык нельга іх замясьціць; а біскупы ўжо старыя і мала здатныя да працы. Усе загады савецкай ўлады даюцца вусна і часам супярэчныя з сабою, так што немагчыма бараніцца ад самаволі мясцовай улады. Царква пазбаўлена друку (нават хоць малой катахізмоўкі!), таксама радыё, тэлевізіі і тэхнічнай помачы ў сьвятынях. Нельга вучыць у касьцёлах дзяцей рэлігіі. А і бацькі трацяць аўтарытэт, бо школа іх крытыкуе і паніжае перад вучнямі . . . (З анг. часапісу «Таблет», 28. II. 1970). Словам, адносіны камунізму да Катал. Царквы далёка горшыя чым былі ў часы царскае ўлады: тады было паніженьне і уціск, а цяпер — востры прасьлед-аж да поўнае ліквідацыі! А ў Сав. Беларусі прасьлед куды больш жорсткі.

ДУМКІ ПАЎЛА VI-ГА НА ВЯЛІКІ ПОСТ: «Вялікі Пост — гэта пара, калі трэба адкінуць усё, што разлучае нас з Богам, — грэх і ягоныя спакусы. Грэх робіць нас менш свабоднымі, менш людзьмі, менш хрысьціянамі. А наш час патрабуе моцных хрысьціян, адважных сыноў і дочак, абучаных у школе сьвятога Эвангельля. Заклік сьв. Царквы да паўстрыманьня цела і душы ёсьць своечасовы».

Сьв. Царква зьмягчыла сам пост, але заклікае захаваць дух паўстрыманьня і пакуты: гэтым не паніжаецца свабода чалавека, бо найбольшую няволю людзям прычыняюць грахі, асабліва грэх супраць нявіннасьці (распуста), — у думках, словах і ўчынках.

*

НІГЕРЫЯ — БІЯФРА Ў АФРЫЦЫ: Біяфра пакананна пасьля гераічнае вайны і не дабілася незалежнасьці, дзякуючы прысыланай для Нігерыі зброі з Савецкага Саюзу і (на вялікі стыд!) з Англіі. Сав. Саюз які ў тэорыі бароніць пакрыўджаных, тут памог імпэрыялістам паканаць слабейшы народ. Найбольшым няшчасьцем для Біяфры быў голад: паміма міжнароднай помачы і апекі над дзяцьмі, вымерла там ад голаду каля двух мільёнаў людзей! Катал. Царква і Пратэстанская Рада Цэркваў — у супрацоўніцтве з Чырвоным Крыжам — давалі магчымую помач — прадуктамі, лякарствамі, вопраткай, хоць Нігерыя не дапускала і перашкаджала гэтаму.

---

# З беларускага жыцьця

### ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ ЗА ЦАРКОЎНУЮ ЕДНАСЬЦЬ

З нагоды тыдня малітваў за царкоўную еднасьць Уладыка Часлаў Сіповіч, у саслужэньні з архім. Л. Гарошкам і а. Р. Тамушанскім, адслужыў у чацьвер 22 студзеня сьв. літургію ў царкве «Ст. Джэймс» у Лёндане. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла Тураўскага. У суботу 24 студзеня Уладыка Часлаў прысутнічаў на троне на сьв. літургіі ў Вэстмінстэрскай катэдры.

Таксама з нагоды тыдня малітваў а. А. Надсон прачытаў у чацьвер 22 студзеня лекцыю пра ўсходніх хрысьціян для студэнтаў Біркбэк Коледж на Лёнданскім Унівэрсытэце. Іншымі прамоўцамі былі архіеп. Робэртс, былы каталіцкі архіепіскап Бамбэю, і прэсб. Купэр, сакратар архіепіскапа кантэрбрэйскага па справах экумэнізму. У пятніцу 23-га а. Надсон меў гутарку ў экумэнічным цэнтры ў Чарльтон.

У нядзелю 25 студзеня Ўладыка Часлаў, у саслужэньні з архім. Л. Гарошкам і а. А. Надсонам, адслужыў сьв. літургію ў беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз.

### ЖЫДЫ І ХЫСЬЦІЯНЕ Ў МАРЫЯН ГАЎЗ

У раёне Фінчлей у Лёндане існуе арганізацыя, якая называецца «Хрысьціянска-Жыдоўская Рада» (Каўнсіль фор Крыст'янс энд Дж'юс), якая мае на мэце бліжэйшае пазнаньне і дружнае сужыцьцё між хрысьціянамі, жыдамі і іншымі рэлігійнымі і этнічнымі групамі. У нядзелю 18 студзеня сябры гэтай арганізацыі былі гасьцямі ў Марыян Гаўз. Агулам было каля сотні прысутных — каталікоў, пратэстантаў і жыдоў, — сярод якіх былі сьвятары, пратэстанцкія пастары і рабін мясцовай сынагогі. Прывітаў усіх Ўладыка Часлаў Сіповіч. Пасьля малітвы ён расказаў прысутным аб Беларусі і аб працы Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі. Вучні Школы сьв. Кірыла прасьпявалі некалькі беларускіх рэлігійных песьняў. Тады рабін Баўм сказаў малітву і жыды таксама засьпявалі не-

калькі сваіх гімнаў. Пасьля гэтага госьці мелі нагоду пабачыць капліцу, беларускую бібліятэку, музэй і Школу сьв. Кірыла. Нарэнец было скромнае прыняцьце, у часе якога гаспадары і госьці маглі пазнаёміцца бліжэй пры кубку гарбаты.

У нядзелю 7 лютага беларусы наведалі мясцовую сынагогу.

## АДКРЫЦЬЦЁ НОВАГА БЕЛАРУСКАГА ДОМУ Ў БРАДФАРДЗЕ

У суботу 17 студзеня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё новага Беларускага Дому і Клюбу «Сакавік» у Брадфардзе. Адчыніў Дом бурмістр Брадфорду. Сярод прысутных гасьцей старшыня Ангельска-беларускага Таварыства сп. Обэрон Гэрбэрт, сакратар сп. Г. Пікарда, старшыня ЗБВБ сп. П. Навара, а. Я. Абабурка, архім. Л. Гарошка і шматлікая беларусы і іхнія прыяцелі з усіх канцоў Англіі.

## БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА Ў ЛЁНДАНЕ МАЕ СВОЙ ДОМ

У чацьвер 12 лютага былі пасьпяхова закончаныя ўсе фармальнасьці зьвязаныя з купляй дому для Беларускай Бібліятэкі ім. Францішка Скарыны ў Лёндане. У нядзелю 15 лютага у новакупленым будынку адбылася першая зборка лёнданскіх беларусаў, у часе якой архім. Л. Гарошка прачытаў даклад пра долю беларускіх бібліятэк.



*Беларусы аглядаюць дом куплены на Бібліятэку.*

Новы будынак бібліятэкі знаходзіцца побач з школай сьв. Кірыла Тураўскага і насупраць Марыян Гаўз. Апрача бібліятэкі, якая будзе разьмяшчацца на ніжнім паверху, у доме будзе беларускі музэй і архіў. Цяпер у доме праводзіцца вялікі рамонт. Трэба спадзявацца, што бібліятэка зможа пачаць нармальную працу перад пачаткам восені.

Кіраўніцтва бібліятэкі будзе ўдзячнае за кожную грашовую дапамогу — хоць бы найменшую — для пакрыцьця коштаў куплі і рамонту дому.



*Беларуская «Вёска» ў Лёндане*
*З левага боку на права: дом Фр. Скарыны — Бібліятэка, дом. св. Пятра і дом св. Кірылы Тураўскага — Школа і Інтэрнат.*

## КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 3 лютага ў памешканьні Таварыства Антыквараў у Лёндане, Др. Р. А. Фрэнч, выкладчык геаграфіі на Лёнданскім Унівэрсытэце, прачытаў лекцыю на тэму: «Уплыў чалавека на зьмену краявіду Беларусі». У аўторак 3 сакавіка Уладыка Чэслаў Сіповіч прачытаў лекцыю: «Мінская рыма-каталіцкая дыяцэзія ў 19 стаг.». Абедзьве лекцыі былі часткай праграмы курсу беларусаведы, наладжанага Ангельска-беларускім Таварыствам.

## РЭДАКТАРУ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» 80 ГОД

4 сакавіка рэдактару «Божым Шляхам» а. Язэпу Гэрмановічу — паэту Вінцуку Адважнаму — споўнілася 80 год. Супрацоўнікі рэдакцыі жадаюць яму з гэтай нагоды шмат гадоў жыцьця і плённай працы.

---

### ПАПРАЎКІ.

У першай частцы артыкулу «Малітаўнік Мамоніча 1601 г.» (гл. *«Божым Шляхам»*, № 1, студзень—люты 1970, стр. 8-12) закраліся наступныя памылкі:

Стр. 8 рад 1 л. напісана: пабаж — павінна быць: пабож.

Стр. 9 заўвага 4, напісана: *Сочиненіе* — павінна быць: *Сочисленіе.*

Стр. 9 заўвага 5 *сочиненіи* — павінна быць: *сочисленіи.*

Стр. 12 рад 13 л., напісана: і в страсе — павінна быць: и в страсе.

# З нашае мінуўшчыны

## АКТ ЭРЭКЦЫІ МЕНСКАЙ ЛАЦІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

ВЫНЯТКІ З БУЛЛІ ПАПЫ ПІЯ VI-ГА, 16 КАСТРЫЧНІКА 1798 г.

Пій[1] Біскуп слуга слуг Божых пастанаўляе на заўсёды. MAXIMIS UNDIQUE pressi calamitatibus. З усіх бакоў найвялікшымі бедамі прыгнечаныя мы самі няшчасныя ўцекачы,[2] пазбаўленыя ўсялякай людзкой дапамогі, вельмі-ж мы адчуваем цяжкі і вычэрпваючы з нас блізка апошнія сілы, наложаны на нашыя плечы абавязак кіраваньня Хрыстовай Царквою, і так наша слабасьць дзеля вялічыні цяжару ледзь ні гатова зусім заламацца.

... Аднак даходзіць новая прычына ўцехі: бо-ж у далёкіх ад нас краінах пры Божай ласцы і дапамозе Найясьнейшага і Магутнага Князя Паўла І, Імпэратара Расейскага,[3] чэсьцідастойны наш брат граф Лаўрын Літта,[4] цяперашні тыт. Архібіскуп Тэбаў, якога мы да Яго Вялікасьці з упаважненьнем выслалі ў характары Апост. Дэлегата, заладзіў шмат справаў дзеля дабра Хрыстовай Царквы і дзеля развіцьця Рымскай Каталіцкай рэлігіі.

... Аднака-ж, каб у будучыні аб усім гэтым, што зрабіў наш Дэлегат, ня было ніякага сумніву і каб ніхто ня мог зрабіць якогаколечы закіду, усё разам і кажную справу аддзельна гэтым нашым пасланьнем акуратна заапрабаваць і пацьвердзіць пастанавілі.

... І таму ўспомнены Архібіскуп Лаўрын выпаўняючы абавязкі Дэлегата, маючы на ўвазе той факт, што кіраваньне некаторымі дагэтуль існуючымі дыяцэзіямі ня было вельмі шчасьлівым, а гэта дзеля іхняй непамернай расцягласьці або дзеля цяжкасьцяў спалучаных са свабодным і бясперашкодным выконваньнем духоўнай юрысдыкцыі ў тых частках, якія перайшлі пад чужую цывільную ўладу, або дзеля нязвычайных закалотаў і войнаў, — (Дэлегат) вызначыў новыя межы дыяцэзіяў і гэта дзеля таго, каб быў захаваны ці нанова ўстаноўлены патрэбны лік Цэркваў і Біскупаў для добрага і здаровага адміністраваньня і кіраваньня сотнямі тысяч вернікаў.

---

[1] Папа Пій VI-ы быў на рымскім пасадзе ў гадох 1775—1799.

[2] Тады Рым быў забраны францускім войскам, а Папа знаходзіўся на выгнаньні ў манастыры картузаў ля Флёрэнцыі.

[3] У арыгінальным тэксьце: «Paulo hoc nomine Primo Russiarum Imperatore».

[4] Лаўрын Літта быў папскім амбасадарам да цара Паўла 1-га ў гадах 1797—1799. Дзякуючы яго стараньням было заладжана шмат царкоўных справаў, а такжа створана новая Менская дыяцэзія.

.... Таму, што адлучаная частка ад ужо ўспомненай Віленскай дыяцызіі,[5] якая знаходзіцца ў Менскай губэрніі, існуе — як кажуць — для эрэкцыі новага біскупскага пасаду, таму атрымаўшы інфармацыі ад таго самага Архібіскупа Лўрына аб горадзе Менску, які зьяўляецца сталіцай губэрніі, а які дзеля сваей вялічыні займае выдатнае мейсца, — бо-ж у ім шмат знаходзіцца касьцёлаў, сярод якіх вызначаецца сваей вялічынёю і элегантнай пабудовай п. н. Найсьвяцейшага Імя Марыі, некалі ўласнасьць закону езуітаў, — таму ўважаем, што горад Менск ёсьць годным назову біскупскага гораду і каб быў гэтаю годнасьцю біскупства ўпрыгожаны.

Усё гэта разважыўшы названы Архібіскуп Лаўрын устанавіў і эрыгаваў на моцы прызнаных яму правоў біскупскі пасад і таму будзе называцца горад Менск біскупскім і будзе мець усе правы, гонары і прывілеі, якія маюць усе іншыя гарады тых частак сьвету, што ўдастоіліся біскупскага пасаду, а іхныя грамадзяне карыстаюць з іх і цешацца.

Касьцёл Найсьвяцейшага Імяні Марыі на славу і ў чэсьць Усемагутнага Бога, у чэсьць тойжа Дзевы Марыі і Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла, для падтрыманьня каталіцкае рэлігіі і на славу змагарнай Царквы — прызначаецца на касьцёл для біскупскага пасаду і будзе катэдральны Менскі. Адначасова гэты касьцёл будзе парахвіяльным з дастатковымі гадавымі даходамі для аднаго Менскага Біскупа, які будзе галавой Менскае Капітулы.

Менскі Біскуп будзе суфраганам цяперашняга Архібіскупа Магілёўскага і будзе яму падуладным як свайму Мітрапаліту,[6] аднак ён-жа будзе мець свой уласны пасад, свой стол і пячаць разам з усімі адзнакамі, прывілеямі, гонарамі, юрысдыкцыямі, правамі і прэрагатывамі, якіх толькі ўжываюць і з якіх карыстаюць катэдральныя касьцёлы тых краінаў цяпер і ў будучыні.

Тая-ж Менская Царква будзе мець Капітулу, якой склад твораць 6 годнасьцяў, 6 канонікаў і 6 для абслугі катэдры (мансіёнары). Асобы з годнасьцю (або пралаты) будуць утрымлівацца з даходаў наступных парахвіяў: першы пралат (прэ-

---

[5] Перад утварэньнем Магілёўскай архідыяцэзіі, а пасьля і Менскай блізу ўсе беларусы лацінскага абраду належылі да дыяцэзіі Віленскай, якая была створана ў 1387 г. за часаў Папы Урбана VI-га.

[6] Тады быў каталіцкім Мітрапалітам Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, радз. ў 1731, пам. у 1826.

зьбітэрат) з парахвіі Глускай, ён-жа першы пасьля Біскупа; другі пралат (архідыякан) з парахвіі Барысаўскай; трэці называны схалястык з парахвіі Нясьвіскай; чацьвёрты (кустос) з парахвіі Радашкавіцкай; пяты (кантар) з парахвіі Іказьненскай; шосты з парахвіі Менскай. Канонікі будуць утрымоўвацца з наступных парахвіяў: першы з Івянецкай, другі з Докшыцкай,, трэці з Цімкавіцкай, чацьвёрты з Ляхавіцкай, пяты з Нядзьведзіцкай, шосты апошні з парахвіі Клецкай.

Для рэзыдэнтаў (мансіянараў) вызначаюцца даходы з 9 наступных парахвіяў: Гайнаўскай, Каменскай, Борчынскай, Задарожскай, Мядзёльскай, Ваўкалатскай, Дунілавіцкай, Бабруйскай, Хажоўскай.

.... Для рэзыдэнцыі Біскупа прызначаецца манастыр Айцоў Дамініканцаў, якія знаходзяцца ў тым-жа горадзе Менску і непадалёк ад самай катэдры: гэта датуль, пакуль ня знойдзецца ўласны дом для Біскупа.

А таму, што паводле інфармацыяў Архібіскупа Літта названая і эрыгаваная дыяцэзія Менская займае вялікі прастор і адзіны яе Біскуп ня мог-бы выканаць сваіх абавязкаў; а такжа таму, каб яму дапамагчы і каб усе каталікі дыяцэзіі ня былі пазбаўленыя духоўнае апекі ўзалежненай ад біскупскага характару пастаноўлена, каб цяперашні Менскі Біскуп і яго наступнікі мелі Біскупа суфрагана, тытулярнага, вызначанага Апостальскай Сталіцай, якога сядзібай будзе менскі катэдральны касьцёл, а утрымлівацца ён будзе з адпаведна вызначанай яму каноніі.

Каб Менская Царква, нядаўна заснаваная, якая ня мела дагэтуль свайго Біскупа, у хутчэйшым часе магла быць ашчасьліўлена сваім Пастырам і каб яе вернікі каталікі ня былі пазбаўлены патрэбнай і неабходнай духовай апекі; узяўшы пад увагу такжа выдатныя заслугі дарагога нам сына Якуба Дэдэрко,[7] ад шмат гадоў сьвятара, доктара абодвых правоў, інфулата і сябры калегіяты ў Альцы Віленскай, гэтага-ж Якуба назначаецца для Менскае Царквы Біскупам.

Булля «Maximis undique» з дня 16 кастрычніка 1798 г. надрукавана ў: Raccolta di Concordati su materie ecclesiastiche tra la Santa Sede e la Autorita civili a cura di Angelo Mercati. Vol. I: 1098—1914. Tipografia Pol. Vaticana 1954, pp. 538-559.

---

7 Якуб Дэдэрко радз. 27 ліпня 1752. У 1776 з рук Біскупа Фэлікса Тавянскага, Беларускага Суфрагана, атрымаў сьвятарства. У 1798 быў высьвячаны на Менскага Біскупа праз Біскупаў кансэкратараў Бэніслаўскага, Лапацінскага і Бутрымовіча. У 1816 гэты першы Менскі Біскуп пад ціскам расейскага ўраду мусіў зрачыся сваіх абавязкаў. Памёр у 1829 г.

---

## *На кніжнай паліцы*

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
т. I, Мінск 1969, бач. 624.

Кажуць, што кніжка ёсьць памяцьцю чалавека. Праз кніжку пераказваюцца веды асобных людзей, а такжа і цэлых стагодьдзяў. Веды аднак разрастаюцца і разгаліняюцца. Сяньня ўжо немагчыма абняць усе веды, а нават стаццa спэцыялістам толькі хаця-б у некалькі галінах, прыкладам быць добрым інжынерам і доктарам або багасловам і матэматыкам.

Каб аднак не парваць сувязі з рознымі ведамі, а мець усе зь іх «пад рукой», людзі дадумаліся зьбіраць іх сыстэматычна ў т. наз. энцыкляпэдыі.

За першага энцыкляпэдыста можна было-б уважаць Плінія Старшага, які каля 79 г. нашай эры напісаў працу вялізарную, бо аж 37 кніжак, у якіх знаходзіліся 2 493 артыкулы. Яна называлася: «Historia naturalis».

У XIII стаг. была выдана слаўная энцыкляпэдыя Вінцэтага з Бовэ пад назвай: «Bibliotheca mundi».

Першай аднак навачаснай энцыкляпэдыяй, у якой артыкулы падаваліся ў альфабэтычным парадку, трэба лічыць працу італьянца В. Коронэллі: «Biblioteca universale del sacro-profano», якая выйшла ў гадох 1701—1706.

Падобнай працай ў ангельскай мове быў: «Тэхнічны Слоўнік» (Lexicon Technicum) выданы ў 1704 г. праз Гаррыс'а, у якім зьмяшчаў свае трактаты такжа Ізаак Ньютон.

Наступнай і ўжо лепш апрацаванай была энцыкляпэдыя Чамбэрса (1728 г.). Выданьне гэтай энцыкляпэдыі ў француск'ім тлумачэньні лягло ў аснову для слаўтай францускай энцыкляпэдыі Дзідэро і Д'Алямбэрта (1751—1772). Яна, згуртаваўшы ля сябе шматлікіх вучоных эпохі «прасьветы» або рацыяналізму, зрабіла вялікі ўплыў на далейшае разьвіцьцё розных ведаў.

Пазьней усе цывілязаваныя народы імкнуліся мець свае энцыкляпэдыі і так выйшлі ў сьвет брытанская ў 24 томах, італійская ў 36 т. і іншыя, у якіх апрача інфармацыяў часта пада-

юцца выпрацаваныя трактаты з розных галінаў веды і апошнія дасягненьні ў навуцы.

*

Што-ж нам прыносіць Б. С. Э., якая выходзіць вельмі-ж спозьнена?

Вонкавы выгляд можна прызнаць беззаганным. Здымкі, каляровыя геаграфічныя карты з тэхнічнага боку на ўзроўні сучасных эўрапэйскіх ці амэрыканскіх падобных выданьняў.

Але важнейшым ёсьць зьмест ад вонкавай вопраткі. Тут такжа знаходзім нямала вартаснага й цікавага матар'ялу, асабліва з галіны тэхнікі і прыродаведы. Цікава прачытаць хоцьбы сабе і аб той расьлінцы, што ў нас завецца абляпіхай, а па лаціне hippophae. Нямала такжа даведваемся пра адзеньне (прыгожыя каляровыя здымкі), крыху аб альдэгідах, анаэробах і г. д. Шмат цікавага матар'ялу аб нашых вазёрах, рэках і рэчках, пра якія ў звычайных школьных падручніках няма і ўспаміну.

Калі аднак затрымаем нашу ўвагу на такіх артыкулах, як абацтва, абарона айчыны, аб'ектывізм, дык кінецца нам у вочы такі дзівос, што «аб'ектывізм» паводле аўтараў Б. С. Э. гэта «антынавуковы прынцып падходу да рэчаіснасьці»!

Дык што-ж тады вырашае — пытаемся — аб наяўнасьці праўды?

Адказ аўтара (хацелася-б верыць, што ня ўсіх супрацоўнікаў Б. С. Э.): «ваяўнічая партыйнасьць»! Калі партыя сказала, значыць, праўда. Такой сафістыкай будуць апраўданыя крымінальныя праступкі Дзяржынскага, Яжова, Бэрыі, Сталіна і іншых. Фальшывы прынцып мусіць давесьці да трагічных вынікаў. Пацьверджаюць гэта факты: напрыклад, з 1 966 дэлегатаў на XVII кангрэс партыі Сталін зьнішчыў 1 108, а з сяброў Цэнтральнага Камітэту (усіх 139) зьнішчыў 98!

У артыкуле: «Абарона айчыны» прыгожа сказана, што гэта сьвяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна (бач. 15).

Але мы жадалі-б ведаць, што такое айчына?

Аўтар паклікаецца на г. зв. клясыкаў марксізму-ленінізму, дае вельмі туманны адказ: «айчына — катэгорыя гістарычная» і далей паясьняе (лепш было-б сказаць зацямняе), што быццам іншая айчына для буржуазіі, а іншая для пралетарыяту. Тут нам ізноў прыходзіцца сьцьвердзіць, што аўтары Б. С. Э. глядзяць на сьвет праз акуляры накінутай ім ідэялёгіі.

Гэтым такжа тлумачыцца сказ, што абацтвы былі рассаднікам рэлігійнага цемрашальства (бач. 16). Тут варта запытаць нашых энцыкляпэдыстаў; хто перахаваў творы Гамэра, Гарацыя, Цыцэрона і хваленага імі Авідзія? (аб якім зусім слушна чытаем: «Творчасьць Авідзія зрабіла вялікі ўплыў на развіцьцё заходняй эўрапэйскай літаратуры», бач. 61).

Успомнім яшчэ пэўныя недаравальныя пропускі пад літарай А. Так мы не знаходзім слоў асаблівых для беларускага быту: абаранак, аброць, асьвер ... Мы не знаходзім такжа нічога пра выдатных беларускіх дзеячоў: Фабіяна Абрантовіча, А. Астрамовіча (Зязюля), Ф. Аляхновіча, пра граф. Р. Абіхта. Бясшкодна можна было прапусьціць розных Абразцовых, Абрыкосавых ці Алёхінаў. Для іх ёсьць большыя памерам расейскія савецкія энцыклапэдыі, дык навошта запаўняць імі цесныя рамкі беларускай?

І так мы вельмі цешымся, атрымаўшы першы том Б. С. Э. і гэта дзеля таго, што ў ім ёсьць шмат матарыялу цікавага і вартаснага, але мы незадаволеныя з усяго тандэтнага і тэндэнцыйнага, што зьніжае ейны навуковы ўзровень.

*Д.*

---

## *З лістоў у рэдакцыю*

АЎСТРАЛІЯ: Нечакана зайшоў да нас Сп. М. К., які даўжэйшы час атрымлівае «Божым Шляхам». Да гэтага часу між намі быў малы кантакт. Ён вырашыў заплаціць за 1969 і 70-ты год і прасіў пераслаць $ 4,20. Жадаў Вам усяго найлепшага.

Пры нагодзе хачу інфармаваць, што ўжо некалька асоб зьвярталіся да мяне, што атрымліваюць «Божым Шляхам»: ня ведаюць, што зрабіць? Прыпомню ім абавязак аплаты падпіскі за часапіс.

Гэта ў справе фармальнай.

У мінулым тыдні быў я з дзецьмі ў Сыднэі на адным сабраньні беларусаў; гутарыў з др. Я. Малецкім, які добра Вас помніць і перасылае прывітаньні. Ён успомніў нямала фактаў пра Вас і пра іншых сьвятароў на Бацькаўшчыне, асабліва ў Вільні. Гэта зацікавіла ўсіх прысутных слухачоў, ад якіх таксама прысылаю Вам прывітаньні.

Па дарозе з Сыднэю заехалі мы да Канбэрры, якая ёсьць сталіцай Аўстраліі, а пасьле затрымаліся на колькі дзён у Кооме ля найвышэйшых гораў Аўстраліі. Там выбраліся на самы высокі пункт, на гару Касьцюшкі, але вярнуліся стуль ня змучаныя, бо пераважна падыймаліся на машыне, а толькі апошнія 200 ярдаў ішлі пешкі. Ёсьць тут горы стромкія і дзікія, але пераважна з лагодным спускам. На гарэ Касьцюшкі ляжыць сьнег: зімой тут праводзяцца спартовыя спаборніцтвы і перагонкі.

Сяньня я атрымаў пісьмо з Бацькаўшчыны: пішуць, што ў іх сёлета вострая зіма і вельмі шмат сьнегу, больш 30-ці гадоў такога ня было!

Ведама, у нас цяпер лета канчаецца, а я меў даўжэйшы голідэй, а зара іду да працы і наступны адпачынак будзе толькі за 15 месяцаў.

Усім Вам найшчырэйшыя прывітаньні!

4. II. 1970. *М. Н.*

ЗАПЫТАНЬНЕ: Мо' Вы гэтага ня ведаеце, але нашыя эмігранты ў 80—90% ня вераць у Бога, хоць былі ўзгадаваны ў хрысьціянскай веры дый у пазьнейшым часе затрацілі — нібыта «вырасьлі» з яе. Асабліва нашая інтэлігенцыя, хоць часам ходзіць у царкву ці ў касьцёл, але толькі па традыцыі ці як асэкурацыя, «а ну-ж?».

АДКАЗВАЮ: Пра гэта я ведаю, але не спадзяваўся такога вялікага проценту і думаю, што Вы перасалілі. А прытым нашыя «атэісты хатняй гадоўлі» — зусім ня ёсьць недаверкамі, але людзьмі абыякавымі да самых найважнейшых праблемаў: яны й ня хочуць цікавіцца доказамі пра Бога, душу і загробнае жыцьцё, хіба толькі, як Пілат, які спытаўся Хрыста, «што такое п р а ў д а ?», але не чакаў адказу.

Я сам спаткаў аднаго няшчаснага, які ледзь не стаў «атэістам», пасварыўшыся з жонкай. А другі даказваў мне, што Бога няма, бо так яму казаў паважны інжынер. Ну, я яму адказаў так: «Калі трэба будзе строіць мост, дык спытайся інжынера, але ў справе пра Бога спытайся лепш мяне».

Адносна сапраўдных атэістаў трэба ведаць, што ў цяперашні матэматычны і тэхнічны век людзі жадаюць падобных матар'яльных доказаў на існаваньне Бога; ў нашай аргумантацыі заўсёды знайходзяць недахопы. Праўда, нам вельмі трудна пераканаць атэістаў і здаволіць крытыкаў веры і Царквы: да гэтага патрэбна ў іх чыстая інтэнцыя, глыбокая развага, добрая воля, выключаючы запальчывасьць, насьмешкі і пыху. Хто шчыра шукае п р а ў д ы, той яе знойдзе.

Аднак у дыспутах з недаверкамі нам лягчэй даказаць, што Бог ёсьць (хоць і вельмі трудна!), але атэістам проста немагчыма даказаць, што Бога н я м а !

Хоць і цяжка чалавеку прыняць, што Бог стварыў усё і што ўсім кіруе, ды тут можна знайсьці тысячу закідаў. Але нашыя доказы паказваюць на разумную прычыну існаваньня сьвету і парадку на сьвеце; а доказы атэістаў паказваюць прычыну самую неразумную! Яны мелі-б больш рацыі, каб прызналіся, што ня ведаюць. Інакш па іхняму: сьвет існуе вечна — «сам з сябе»; значыць, матэрыя ёсьць вечная. Была перш хаосам, а пасьля гэты хаос «вытварыў» праз эвалюцыю парадак — (парадак у кажным атоме і ў цэлым сусьвеце!) — і хаос устанавіў законы прыроды — аж давёў да самага высокага людзкога розуму. Такі хаос, сам ня маючы ні жыцьця, ні розуму, усё гэта стварыў праз эвалюцыю, якая таксама не мае ні розуму, ні жыцьця.

У рэзультаце з такіх «доказаў» паўстае х а о с у галаве такіх вялікіх вучоных і палітыкаў, што давядуць сьвет да 3-яе вайны.

А нашыя недаверкі — кажу — ня цікавяцца ані навукай Царквы, ані навукай бязбожнае Масквы: ім даволі заработку, цёплага месца (асабліва ў Амэрыцы) і «а ну-ж на тым сьвеце нічога няма?!».

Але Хрыстос ясна сказаў: «Хто паверыць і ахрысьціцца, спасён будзе: хто-ж не паверыць, засуджаны будзе» (Марк 16, 16).

*а. Юстын*

ПЭРОНН — БЭЛЬГІЯ: Дня 3-га сакавіка 1970.

Дарагія Браты ў Хрысьце! Вялікі Вам дзякуй за такія прыгожыя кніжкі і за каляндар дый абразікі. І пішу Вам пра сваё жыцьцё: я з гораду Беластоку, але там ўжо ў мяне няма нікога. З маей сям'і немцы (ах, Божа мой!) у Майданку каля Любліна... Я-ж таксама быў у лягеры Крэфэльд і да гэтае пары нічога ня выплацілі. А я там страціў здароўе: вось ужо шэсьць гадоў не працую і атрымліваю з касы Земляробства на жыцьцё. А мне Хрыстос памагае — толькі трэба маліцца.

Дарагія Браты ў Хрысьце, калі маеце яшчэ якія добрыя кніжкі, прышліце, але толькі царкоўныя! Прашу на міласьць Хрыста, бо я не магу сам купіць — у мяне не хапае грошаў. Буду маліцца за Вас, каб Бог Вас багаславіў у Вашым жыцьці.

*Язэп Юшынскі*

КАНАДА: Я ўжо вельмі рады, што ня ёсьць даўжнікам. Цяпер пасылаю ордэр на 11 даляраў, з якіх 3 — на «Божым Шляхам»; 3 — на кніжку «Кітай-Сібір-Масква» і 5 — на Беларускую Бібліятэку і Музэй. Цяпер хачу падаць вестку зьвязаную з гістарычнымі дзеямі. Як ведама, Вітаўт быў абвясьціўшы сябе каралём Літоўскага Княства і выслаў паслоў у Рым па карону, а сам шыкаваўся да вялікай урачыстасьці — каранацыі. Тымчасам паслы вярнуліся без кароны. Казалі, што на іх у дарозе напалі бандыты і адабралі карону. Я ў 1958 годзе прыехаў у Польшчу і жыў у Чэнстахове. Там у газэце «Жыце Чэнстоховы» была такая вестка: «У Кракаве, праводзячы рамонт катэдры, знайшлі груба залочаную каралеўскую карону, да якой няма ніякіх запісяў і ніхто аб ёй нічога ня ведае». Мая дагадка: гэта якраз ёсьць карона Вітаўта!

Шчыра жадаю Вам далейшай пламыснай працы на славу Богу і на карысьць Бацькаўшчыны.

*Я. Янцэвіч*

## АПОШНІ РАЗ

Люблю я беларускую зіму, якая будавала празрыстыя масты на браслаўскіх вазёрах і якая так выгодна лучыла параскіданыя нашыя вёскі, што былі летам зусім недаступныя, пазашываныя між вазёраў і лясоў. О, тады гаспадары езьдзілі аднак да другіх і дзякавалі Богу за гладзенькую, бліскучую дарогу! На прасьцяка езьдзілі да касьцёла ў нядзельку, на кірмаш — ў будні — у Браслаўе, ці куды. Аднак часамі такі цудоўны, крышталёвы мост даводзіў да сьмяротнае купелі...

Быў год 1897 і здарылася ў месаедзе. Тады бываў час самы свабодны ад працы, а вельмі выгодны для гульняў і вясельляў. бо якраз здараецца першарадная зімовая дарога.

Вёска Дудалі была адрэзана возерам Снуда ад Слабодзкай парахвіі і летам толькі лодкаю было магчыма ў Слабодку даехаць. Дык вось юнак з Дудалёў браў жонку з вёскі Вусьце якраз у месаедзе. Калі-ж пасьля шлюбу перш у Вусьці нагуляліся,

адтанцавалі і малады вёз з дружбаю сваю маладзіцу-жонку ў Дудалі, трэба было ехаць па лёдзе праз слаўнае возера Снуда. Сьпявалі, гукалі, сьмяяліся — аж пачалі адны другіх пераганяць і кружыць у так званым «зачараваным кругу», але лёд ня быў ужо дастаткова ўстойлівы і як раптам трэснуў-заламаўся, дык усё вясельле — з маладой парай — пайшло на дно! І ня выратаваўся аніхто...

Такая была навучка для неразважных весялуноў. Доўга пра гэта гаманілі людзі і паказвалі тое месца.

Аднак усё-ж мы любілі зіму. Я і цяпер успамінаю пушыстыя сьнягі Беларусі. А марозы, бывала, начамі трашчэлі, як-бы хто страляў з гарматы, сьпіш — аж падскочыш! А шыбы ў вокнах мастак-мароз так размалюе, што і найбольшы італьянскі артыста не патрапіць гэтак. А паветра такое чыстае, здаровае, што пачырванееш і памаладзееш!

Бедныя верабейчыкі туляцца ля будынкаў, у падстрэшшах і ля комінаў. Ведама, шчодрая рука сыпала ім зерняткі і крошкі хлеба.

Але, трэ прызнацца, што я яшчэ больш любіў вясну, калі пачне весялей сьвяціць мілае сонейка, калі паплывуць ручаёчкі і засьпяваюць жаваранкі. Дый іншыя птушкі грамадна вяртаюцца на Бацькаўшчыну; а тыя жаваронкі ўзносяцца над палямі і пад самым небам выхваляюць Бога. Так, хто-ж ня любіць вясны? Бо вясна — гэта маладосьць людзтва і адраджэньне.

А калі надыйдзе месяц май і кветкі абсыпяць галіны дрэваў і кустоў і ўсімі колерамі пераліваюцца ў сонечных праменьнях, дый як вясёлка дываном шырокім рассьцілаецца па лугах. І тады людзі з усей прыродай сьпяваюць песьні да Божае Маці.

*

Але на хвілінку заглянем у маёнтак нашага барона, у Завер'е! Скуль-жа ўзяўся немец-барон, гаспадар вялізнага маёнтку, які разлёгся недалёка ад маей вёскі Лугоў і цягнуўся ад Слабодкі ледзь не да самай Іказьні? Хто яму надаў гэтульки земляў, ня ведаю, нат ня ведаю ягонае фаміліі, бо заўсёды казалася «барон» і больш нічога! А толькі, праяжджаючы гасьцінцам праз тыя землі, бачыў я доўгія рады хатак, як бы вёсачак, дзе жылі работнікі пана-барона. І ўсё лета яны трудзіліся ад зары да зары на карысьць барона і толькі сонца паказвала праця́г часу іхняе працы. А ў восені, як ня віднела сонца на небе, горбіліся ў той рабоце ад цямна да цямна.

Аднак у тую-ж вясну 1939 году барон пераслаў чамусьці жонку і сына ў Усходнюю Прусію, а сам сьпешна прадаваў дзялянкі зямлі, нават за паўцаны! Хоць быў ён чалавек «ашчадны», бо і па ягады ў лесе дазваляў хадзіць за плату, выдаючы спэцыяльныя талоны. Дый пад канец лета таго няшчаснага году сам барон пакінуў Завер'е. Казалі, што польскі ўрад затрымаў яго ў Варшаве. Што з ім стала пасьля, ніхто ня ведаў...

Вяртаючыся да нашага лета, з ягонымі кветкамі, з сенам і збожжам, мушу сказаць, што нашая краіна была самай здаровай і прыгожай, не забруджаной дымамі фабрыкаў ні машынаў; а паветра ачышчалася і адсьвяжалася дажджамі, громам і навальніцамі. Сапраўды, я любіў грозныя грымоты з пярунамі, калі калыхалася зямля і рэха разлягалася па палёх і ўзгорках!

Не забудуся ніколі, як пасьпешна састаўлялі бабкі снапоў і хаваліся ад дажджу: я наглядаў, як каплі вады зьбягалі сьлязінкамі на зямельку, а сонейка праглядвала і зігацела вясёлкамі. А я цешыўся ўсей душою, бо тады быў вольны як птушка — зусім ня тое, што цяпер!..

Але нарэшце ўсё ўжо скошана, пажата, зьвезена ў гумны і настае-надыходзіць восень — сонечная, залатая — «бабіна лета». Мы капаем бульбу, а белае павучыньне носіцца ў паветры і снуецца па ральлі і па аржышчах. Нямыя загоны напамінаюць нам старасьць — паважную, маўклівую, сівую — аж белявую! Мы аднака-ж любім нашую мілую восень і асабліва з жалям успамінаем тую а п о ш н ю ю з 1939 году, калі солтыс прынёс павестку на мабілізацыю — ісьці забіваць людзей... У мяне ня можа зьмясьціцца ў галаве, дзеля чаго я мушу забіваць іншых ці самому быць забітым? Аднак няма часу разважаць — трэ зьбірацца ў трагічную дарогу — ўсе сьпяшаюцца. Вось толькі асталося пару хвілінак і... Бывайце здаровы, мае родныя і ты, дарагая зямелька, Беларусь! Аставайцеся з Богам, сябры і лясы, вазёры і быстрая рэчанька Друйка... Ці калі вас убачу? З прыгнечанай душою і сьціснёным сэрцам а восьмай гадзіне вечарам 24-га жніўня 1939-га году на станцыі Заверская-Слабодка сядаем на вузка-калейны цягнік — я і сотні іншых маладых юнакоў — едзем на поўдзень, каб у Дукштах перасесьці на шырокую дарогу і пусьціцца ў далейшы сьвет... Куды?

Цягнічок выстуквае: «Тра-та-тах, тра-та-тах!», а сэрца калоціцца, што тут «нешта-не-так!» Вось у Дукштах падхапіў нас цягнік і выстукваў музычную румбу: «Пры-хо-дзіць ч а с, а п о ш н і р а з, а п о ш н і р а з !».

Студзень, 28, 1970.

Нью Ёрк

*Б. Прытыцкі*

---

ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАЎВАГІ:

Чым больш крычыш, тым цябе менш слухаюць.

Глыбей падумай, разумней скажаш!

Згубіць слова лёгка, а злавіць немагчыма.

Кажуць: «Хто ўсё разумее, той нічога ня ведае».

«І хто шмат пытаецца, нямала ведае». (Аднак ёсьць людзі, што шмат пытаюцца, але адказ пускаюць міма вушэй: тады пытаньні астаюцца бескарысныя).

*а. Я. Г.*

# Майсей пытае

*(татарская легенда)*

Раз Майсей вялікім сьвятам
Гаманіў, як з бацькам, з братам, —
З Самым Богам на Сынаі,
Дый пытае:

— Божа, Ты шмат працы маеш,
Калі сьвет увесь трымаеш:
Ці Ты сьпіш калі хвілінку —
Па абедзе хоць гадзінку? —
Ці на момант супачынеш,
Браму неба як зачыніш? ... —

Бог ледзь-чутку усьміхнуўся,
А Майсей ажно жахнуўся!
Ён спужаўся, мала-многа,
Што залішне пытаў Бога.

КАЖА БОГ: — Ды ты ня бойся —
Супакойся!
Як-жа буду Я драмаці,
А хто будзе сьвет трымаці?
Зблудзяць зоркі дый камэты —
Зробяць самі канец сьвету ... —

МАЙСЕЙ:
— Божа, у Цябе анёлаў процьма! —

КАЖА БОГ:
— Так, але-ж і чэрцяў поцьма!
Зло з Дабром пачне змаганьне —
Пойдзе ў сьвеце замяшаньне:
Трэба добрым памагаці,
Каб у пекла злых прагнаці. —

МАЙСЕЙ:
— Божа, як цярплівасьць маеш?
Скажы, колькі ўсіх трымаеш?

КАЖА БОГ:
Скажу толькі пад сакрэтам,
Але помні — тайна ў гэтым! —
Добрых духаў — легіёнаў —
Сто на сто — мільён мільёнаў,
Апрача сьвятых-прачыстых
Хэрувімаў залацістых,
Сэрафінаў прамяністых ...
А злых духаў — гэных дрэняў —
Трэйця частка — можа й меней ...

МАЙСЕЙ:
— Божа, хто палічыць столькі? —
КАЖА БОГ:
— Для зямлі — ўсё гэта толькі.
Для другіх яшчэ плянэтаў, —
Для бязьмежных іншых сьветаў, —
Дзе сягае мой закон,
Множ яшчэ ўсё на мільён!

МАЙСЕЙ:
— Значыць, Ты — Бог Ўсёмагутны!

КАЖА БОГ:
— Голас мой далёка чутны:
Праз мільярд мільярдаў лет
Рэха йдзе на ўсенькі сьвет!

МАЙСЕЙ:
— Моцны Божа, ці ўсіх знаеш?
Скуль такую памяць маеш?

КАЖА БОГ:
Знаю ўсіх так як Сябе,
Помню ўсіх так як цябе:
Гэта знача:
Кажны просіць, моліць, плача. —
Як дождж льецца,
Як град б'ецца, —
Так малітвы ў цэлай масе
І ў тым самым добрым часе
Плывуць ў неба:
«Хлеба — хлеба ! ! !»
Сьлёзы льюцца, як ракою —
Не даюць Мне супакою:
— Падай, Божа! — Ня дай, Божа! —
— Пачуй, Божа! — Ратуй, Божа! —
— Зжалься, Божа — Божа — Божа ! . .
Рэдка, скупа, не памногу
Людзі кажуць: — Дзякуй Богу! —
Дый які дзесяты можа
Скажа з жалям: — Даруй, Божа! —
А ёсьць душы, так як дзеці,
(Гараць сэрцы, вочкі сьвецяць!):
Ім нічога не патрэба —
Ні здароўя, ані хлеба, —
Дый гамоняць слоў ня многа —
Толькі ціха хваляць Бога. —
Яны ў сэрцы Бога носяць, —
Часам штось для іншых просяць.

МАЙСЕЙ:
— Божа, мусіць для такіх
Неба Ты стварыў для іх? ...

*

Майсей доўга быў ў задуме —
Аж блудзіў у мысьляў тлуме —
Ў лябірынце тым таёмным,
Як мурашка ў лесе цёмным! —

ПОСЬЛЕ КАЖА:
— Божа, я, як жыд, цікавы,
Зноў спытаю: нашы справы
Цябе мучаць бяз прыпынку —
Табе-ж трэба й адпачынку ?... —

КАЖА БОГ:
— Зноў пытаеш? Гэта значыць —
Трэ' даць прыклад: будзем бачыць,
Хоць душа твая набожна,
Што спаць Мне ніяк ня можна! —

*

Бог Майсею сцэну ладзіць:
Перш яго на камень садзіць,
Тады й кажа: — Для навукі
Дам табе дзьве шклянкі ў рукі.
Я наліў у кажну чару
Найчысьцейшага нэктару,
Што сьвятыя п'юць у небе,
Як жывуць на маім хлебе.
Кажна шклянка, бачыш, поўна:
Ты трымай уважна й роўна. —
Тады ўбачым, які скутак? —
Я-ж вярнуся ў пяць мінутак... —

*

Бог пайшоў. Майсей трымае
Шклянкі дзьве. Ён уважае —
Аж дрыжыць! Што зрабіць,
Каб ні кроплі не разьліць?...
З тэй задачы, з тэй прынукі
Церхнуць ногі, дрыжаць рукі,
Цьмянуць вочы, ныюць косьці —
Па ўсім целе ходзяць млосьці —
І аж трацію ўжо надзею —
Думаў: — Божа, я самлею!... —

Раптам чуе... — Ой, што значыць? —
Адчыняе вочы — бачыць —
Няма шклянак у руках!
А ў душы — вялізны страх!...
Ён аж крыкнуў: — Хто тут?
Што тут? —

Бачыць: дзед і баба — двое
І пытаюцца абое:
(Вочы злыя, гнеўны твар!):
— Чаму выпіў наш нэктар?
Хто такі ты? Скуль прыбыў?
Шклянкі ты чаму разьбіў?
Бачым мы, што ты пьяны... —

МАЙСЕЙ КАЖА: —
— Я — не пьяны!
Я — ня дурны!
Я — Майсей, прарок у Бога.
Не краў шклянак я ў нікога:
Мне Сам Бог у рукі даў,
Я трымаў і... задрамаў...
А вы — двое, хто такія? —

ЯНЫ КАЖУЦЬ:
— Мы сьвятыя:
Я — твой пра-а-дзед, Абрагам,
Жонка — Сара і я — сам. —

МАЙСЕЙ:
— Калі так, дык я вас знаю:
Дам паклон і прывітаю...
(Кланяецца нізка).

АБРАГАМ:
— Але ты нэктар прапіў,
Шклянкі Божыя разьбіў,
Дык мы схопім цябе зара
Дый зарэжым на ахвяру! —

— Бо ахвяра ўсё-аднака, —
Пойдзеш ты за Ізаака. —
Бог мяне сьпярша зьняволіў,
А ўканчатку не пазволіў,
Калі я, хоць зубы сьцяўшы
І руку з нажом падняўшы,
Быў-бы трапіў, не прамазаў
Сыну ў сэрца раз-адразу!

О, няшчасная гадзіна —
Я навек ня меў-бы сына!
Так мой род не праявіўся-б,
Ну, і ты не нарадзіўся-б...

Дык нашто цябе жалеці? —
Хай па бацьку плачуць дзеці! —
А, ці гожа ці нягожа,
Згінеш ты тут з волі Божай!... -

*

Майсей слова не сказаў:
Абрагам яго вязаў,
Сара спрытна памагала —
Рукі й ногі прытрымала.

Абрагам тут, жалю збыўшы,
Шкло ад чары той схапіўшы,
Прылажыў ужо да горла... —
Аж Майсею дух запёрла! —
Ды ён чуе голас з неба:
— Стой, ня рэж яго — ня трэба!

Абрагам і жонка Сара
Апусьцілі рукі й зара,
Як на сьветлу хмарку селі,
Проста ў неба паляцелі!...

*

А Майсей яшчэ ляжыць,
Думаў, кажа: — Буду жыць!
Бог з такой, як я, няздары
Не хацеў прыняць ахвяры. —

— О, цяпер я разумею,
Што ўсе гэтыя падзеі —
Абрагам і жонка Сара
І з мяне прытым ахвяра —
Гэта с о н быў — больш нічога! —
Аж ён чуе голас Бога:

КАЖА БОГ:
— А дзе шклянкі ты падзеў?
Нэктар выпіў... а шкло... зьеў? —

МАЙСЕЙ:
— Божа, літасьцяй багаты!
Я-ж наўкола вінаваты:
Мушу шчыра я прызнацца,
Бо не траплю апраўдацца. —
Я ня ўмеў служыць ахвярна —
Твой загад праспаў я марна... —

КАЖА БОГ:
— Бачыш ты ў здарэньні гэтым,
Што было-бы з цэлым сьветам,
Каб Бог спаць хвілінку мог,
Ці здрамнуць сабе прылёг? —

Розум з сілай дзеяць вінны —
Спаць ніколі не павінны! —

*

Майсей добра пракаўнаўся —
Пра нішто больш ня пытаўся.
Як з гары йшоў, на хаду
Скубаў толькі бараду...

(Паводле татарскай легенды з кнігі «Кітаб», запісанай арабскімі літарамі па беларуску).

---

## ДУМКІ З НОВЫХ КНІЖАК

Нядаўна выйшла новая кніжка «Каміно» — «Дарога» — ў мове гішпанскай, аўтара Ёзэмарыя Эскрывэ, пераложана на шмат іншых моваў. Тут зьмяшчаем крыху самых трапных думак, каб нашыя чытачы маглі хоць крышку з імі пазнаёміцца.

*

...трудна таварышыць Хрысту без малітвы.

Сарві ланцуг... ды ідзі наперад!

Не гавары: «Ён мне напрыкраецца». Падумай: «Ён мяне асьвячае».

Якая гэта прыгожая справа — стацца ахвярай! — Ня зьдзейсьніцца ніякая справа без ахвярнасьці.

Падрабязны рахунак сумленьня давядзе цябе простаю дарогай да аднэй з азначаных цнотаў або дазволіць табе выкараніць галоўную загану.

Не рабі лішне шмат пастановаў. Рабі — канкрэтныя.

«Я зраблю гэта заўтра!». Вось прызнаньне пераможаных.

С т ы д належыць да цябе: пахвалы і адзначэньні належаць да Бога.

Будзь вытрывалы ў сваіх пастановах.

Ня думай лішне аб тваіх упадках.

Наварот — гэта справа аднэй хвіліны, асьвячэньне — гэта праца ўсяго жыцьця.

---

## ЖАРТЫ — СТАРЫЯ І НОВЫЯ

— Што ты думаеш аб агульным раззбраеньні?

— Думаю, што мая жонка на гэта ня згодзіцца.

*

В Ы К Р У Т

— Мой дарагі, пазыч мне пяць рублёў!

— Ахвотна, але не маю пры сабе.

— А дома?

— Дзякую, ўсе здаровы! і... бывайце...

*

Р О З У М

— Скажы мне, Мойшэ, дзе сядзіць розум?

— Ны, ён зусім не сядзіць.

— Ён сабе ходзіць за інтарасамі, бо каб ён сядзеў, то ня быў-бы розум.

— Ны, а дзе-ж ён?

З ЛІСТА ДА ЦЕШЧЫ

... А ў нас, у Вільні, дарагая Мамачка, водзяць шмат машынаў, што называюцца «аўта-ма-білі»: яны многа душаць людзей, якія трапляюцца насустрэч ці ўпоперак. — Дык, мілая Мамка, прыяжджайце да нас пагасьціць. Ах, як мы будзем рады!.. (І так далей...).

(«КРАПІВА», Вільня, Кастрычнік, 1912 г.).

*

ХТО ЛЕПШЫ?

АТЭІСТ цьвярдзіць, што Бога няма, але па сьмерці ён будзе вечна дзівіцца, як убачыць Бога.

БЯЗБОЖНІК цьвярдзіць, што Бога ня трэба, але па сьмерці ён будзе вечна злавацца, як пазнае, што Бог ёсьць.

# Для Беларускай бібліятэкі і Беларускага музэю у Лёндане купляем асобны дом

Б е л а р у с ы,

— у Вялікабрытаніі, Францыі, у Злучаных Штатах Амэрыкі, у Канадзе, Аўстраліі, Аргентыне, Бразыліі, у Нямеччыне, Бэльгіі і ў іншых краінах сьвету, — д а п а м а ж ы ц е !

Патрэба свайго культурнага цэнтру адчувалася здаўна. Дагэтуль ягоную ролю выконвалі «Марыян Гаўз» і Беларуская школа Сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак ужо насьпела патрэба асобнага будынку.

Беларуская Бібліятэка ў «Марыян Гаўз» налічвае больш чым 10 000 кніжак, сярод якіх ёсьць вельмі рэдкія і вельмі цэнныя. Беларускі Музэй, які цяпер займае адну залю, прыдбаў значную колькасьць экспанатаў. Паўстае таксама БЕЛАРУСКІ АРХІЎ, які ўжо налічвае шмат рукапісных і ўнікальных дакумэнтаў. На ўсё гэта патрэбна больш месца.

Таму пастаноўлена скарыстаць з нагоды і купіць д о м побач са школай Сьв. Кірылы Тураўскага для Беларускай Бібліятэкі, Беларускага Музэю і Архіву, якія назавём імем нашага вялікага культурніка і сапраўднага беларускага волата, сына слаўнага Полацка, Д о к т а р а Ф р а н ц і ш к а С к а р ы н ы.

Б е л а р у с ы !

Мы надзейна чакаем Вашай дапамогі: мы верым у Вашае супрацоўніцтва, бо толькі шчырай канкрэтнай дзейнасьцю мы зможам апраўдаць свой патрыятызм і ўславіць нашу Бацькаўшчыну.

Чакаем ахвяр на Беларускую Бібліятэку і Беларускі Музэй Імя Доктара Францішка Скарыны ў Лёндане.

Ветліва просім прысылаць грошы на адрас:

The Byelorussian Library and Museum,

Marian House, Holden Avenue, London, N. 12.

О б э р о н Г э р б э р т
Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства

Ч э с л а ў С і п о в і ч
Апост. Візытатар Беларусаў

П а в а л Н а в а р а
Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі

Лёндан, 1. XI. 1969.

# Да Паважаных Чытачоў

ХРЫСТОС УВАСКРОС! Рэдакцыя «Божым Шляхам» вітае Дарагіх Чытачоў, Прыяцеляў і Дабрадзеяў такжа са Сьвятам 25-га Сакавіка і жадае Ўсім Суродзічам усяго найлепшага.

Дзякуем тым, што прыслалі ахвяры і падпіску на наш часапіс, а хто яшчэ ня выканаў абавязку, просім зара прысылаць нядоімкі.

Ахвяры на куплю Дому для Бібліятэкі, Музэю і Архіву прыймаюцца далей. Паведамляем, што ў купленым доме праводзіцца рамонт і праводка электрычнасьці, аграваньня і даводзіцца да парадку панадворак і пляц з гародчыкам. Пасьля пачнецца ладжаньне самое Бібліятэкі і перанос кніжак. Усё гэта, ведама, вымагае дадатковых коштаў.

---

ЗЬМЕСТ



---

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.